—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
24
ЛІПЕНЯ
1992 г.
№ 30 (3648)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



**27 ліпеня—Дзень незалежнасці Беларусі**

# Сімвал веры

Спусціўшыся на эскалатары з пляца Незалежнасці на платформу станцыі метро, вы апынецеся на плошчы Леніна. Недарэчнасцяў хапае і наверсе: над Домам урада лунае бел-чырвона-белы сцяг, а на фасадзе, прама пад сцягам — герб неіснуючай дзяржавы, Беларускай ССР. Гэтыя дзіўныя спалучэнні нагадваюць дэкарацыю тэатра абсурду, але разам з тым не пазбаўлены сімвалічнага сэнсу. Плошча Леніна пад пляцам Незалежнасці і бэсэсэраўскі герб пад бел-чырвона-белым сцягам — так выглядае сёння наш дзяржаўны суверэнітэт.

Магчыма, нехта са мною не згодзіцца і нагадае мне пра наяўнасць у Менску замежных пасольстваў, пра тое, што маладыя салдаты прысягаюць сёння на вернасць Рэспубліцы Беларусь, пра беларускі «рубель» і яшчэ пра сёе-тое, што дае нам падставы цешыцца ўласнай свабодай і дзяржаўнай незалежнасцю. Згодны, што ёсць — тое ёсць. Але большасць з таго, што можна лічыць набыткам Адраджэння, — гэта не вынік мэтанакіраванай дзейнасці парламента і ўрада, а толькі рэакцыя на змены ў навакольным свеце. Таварышы міністры і парламентарыі (прынамсі, многія з іх) вельмі хацелі б дажыць да пенсіі пры Савецкім Саюзе. Ды вось бяда, няма Савецкага Саюза — сканаў, самараспусціўся! Няма куды падзецца, даводзіцца быць «незалежнымі» (і марыць пра тое, што калі-небудзь Расія зноў далучыць Беларусь да сваіх губерняў). Яны б і хацелі вечна заставацца ў «рублёвай зоне», ды не дае Расія нам грашовай масы, вось і вымушаны друкаваць свой «рубель» і ўсур'ёз думаць пра талер. Тое ж у вайсковым, эканамічным і шэрагу іншых пытанняў. Хочацца захаваць вернасць «субардынацыі», зрабіць прыемнае «старэйшаму брату», ды сам «брат» перашкаджае...

Выкажу меркаванне, што, прымаючы ў ліпені 1990 года Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, большасць дэпутатаў Вярхоўнага Савета (людзі з агромністым партыйна-наменклатурным вопытам) не ставіліся да гэтага Акта сур'ёзна. Хоць сёй-той і бурчэў пад нос, што, маўляў, гэта мы ідзём на паваду ў нацыяналістаў з БНФ. Колькі на іхнім вяку абмяркоўвалася, прымалася, зацвярджалася, удакладнялася, дапаўнялася і... забывалася ўсялякіх законаў і пастаноў, што і зараз мала хто з іх сумняваўся, што дадзеная Дэкларацыя мае часовы і неабавязковы характар. Бо «закон што дышла...», а там, глядзіш, новы Саюзны дагавор пакладзе канец «параду суверэнітэтаў».

Але гісторыя любіць парадоксы, і Дэкларацыя, на здзіўленне многіх, стала для беларускага народа лёсавызначальным дакументам, мостам паміж Актам 25 сакавіка 1918 года і 19 верасня года 1991, калі была абвешчана Рэспубліка Беларусь. Нагадаю далейшую хаду падзей — сустрэча ў Віскулях, што паставіла кропку ў гісторыі апошняй імперыі свету, стварэнне Садружнасці, у якой незалежныя дзяржавы з рознай хуткасцю, але няўхільна разыходзяцца ў розныя бакі; «парад суверэнітэтаў» перайшоў былыя межы СССР і працягваецца на абшарах былой Югаславіі і Чэха-Славакіі, ды і ў Расіі неспакойна (Чэчня, Татарстан...).

Ці маглі такое прадбачыць дэпутаты ВС БССР «адвандэі» ў ліпені 1990 года?

У пачатку нататкаў я параўнаў пляц Незалежнасці з дэкарацыямі тэатра абсурду, працягну «тэатральную» тэму далей. Сённяшняя сітуацыя на Беларусі вядзе мяне да думкі, што Купалава п'еса «Тутэйшыя» — твор, на жаль, бессмяротны. Чытаючы некаторыя рускамоўныя газеты, слухаючы Беларускае радыё, гледзячы наша ТБ, нібыта чуеш голас Мікіты Зносака: «Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Берліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой над языкамі, як баран які над студняй». Ці вось такое «адкрыццё» Зносака, што абсалютна натуральна кладзецца ў сучасную манархічна - праваслаўную канцэпцыю: «Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю сушыць над ім свае апошнія мазгі».

У 20-х гадах ужо было такое, калі ўчарашнія праваднікі «лініі цэнтра» занялі галоўныя пасады ў дзяржаўных структурах БССР, бо «Беларускае асэсарства, апрача ўсякіх іншых плюсаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік — гэта тое, што і па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы а ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імпэрыі».

А ці не з'яўляюцца явау сённяшняй Беларусі «вучоныя» — «усходні» і «заходні»? Адзін бачыць тут «Русский Северо-Западный Край», другі «Польскія Крэсы Всходне» («Меджду протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, а другі — арганіставы»). Скончу цытаванне словамі Янкі Здольніка: «...палітыкі сваёй не маем — на чужой палітыцы пакуль што ездзім». Крыўдна, але гэта так. Пакуль што... Зрэшты, трэба ўсвядоміць, што лёгка нам не будзе, спадзявацца няма на каго. Наш дом за нас да ладу ніхто не давядзе, але шмат знойдзецца прыблуд, каб заняць у нашай хаце лепшы кут.

І ўсё ж ёсць праўда Купалавага болю і праўда Купалавай веры. Прарокі не памыляюцца. Калі ён прадбачыў для Беларусі пачэсны пасад між народамі — значыць, так і будзе! Сімвал веры — бел-чырвона-белы сцяг — лунае над пляцам Незалежнасці.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**



**Аляксей РУСЕЦКІ**



## Беларусы, мы ў сваёй дзяржаве?

**Беларусы, мы ў сваёй дзяржаве!
Што ж маўчым, як робіцца замах
абылгаць, балюча нейк зняславіць
і народ, і наша слова й сцяг!**

**Нам з пагардай кажуць, кім былі мы,
ў падсуседзях у каго жылі
пасланцы «единой неделимой»,
знаўцы як чыюсь зямлю дзяліць.**

**З намі шмат хто размаўляе гэтак,
а сівы чыноўны зноў бугай
адлучаць ад роднай мовы дзетак
па-старому пнецца, як мага.**

**Цяжка нам, няма канца й патрэбам,
але ж мусім мы па-свойму жыць,
першым чынам, можа, разам з хлебам
мець святло нам трэба для душы.**

**Шмат чуваць прамоў з глыбокім сэнсам,
дык чаму ж, выбранцы-спадары,
ёсць папера на прыгоды сексу,
не стае на вершы й буквары!**

**Хто спытаў у мафіяў шматлікіх,
як прыдбалі, скуль мільёны ў іх,
як мадзеюць мастакі, музыкі,
творцы нашых роднамоўных кніг!**

**Кажуць — мы ціхмяныя-рахманыя,
здатныя ўсялякае цярпець,
праўда ж — у бядотах гартаваныя,
ды глядзім на ўсё інакш цяпер.**

**Азірнемся і на тую славу,
як калісьці нішчылі прымус...
Беларусы, мы ў сваёй дзяржаве!
Дык чаму ж такое ў нас,
Чаму ж!**

## Мінскі замак

**Вясёла-светлыя муры,
з зубцамі вежы ды байніцы,
нібы там мусяць жыхары
ад вольных вуліц бараніцца.**

**А ў змроку іхняга жыцця
адно заўсёды ўзімку, ўлетку:
ні дрэў, ні снегу, ні лісця,
адно праз краты — «неба ў клетку».**

**Там вязні ў чуйнай цішыні
на цёмных сценах нішкам, ціха
надрапвалі, лічылі дні
над летапіснаю Нямігай.**

**Каму ж адметнае жытло
казна стаўляла ўласным коштам,
кароны вежаў што ўзняло
з такой прыгожаю раскошай!**

**Ці тым спяцам людскога зла,
ці мужным, прагным да свабоды!
Здаўна дзяржава ў нас была
чужой, варожай да народа.**

**Нічый там не застаўся след,
прайшлі па камянях, бы цені...
Праз краты наш глядзеў паэт,
бунтоўны беларускі геній.**

**І словы-сум пра родны кут,
уздых па сонцу Наднямоння
пачуе потым любы люд
і грознай пушчай загамоніць.**

●

**Шумяць, гамоняць новыя сцягі,
што на развал, на прывіды хаосу
імперыю за цяжкія грахі
нарэшце асудзіў вышэйшы розум.**

**Цяпер відаць, як ты, слухмяны, жыў,
век у якой ганебна жыў аблудзе...
Узбунтаваўся б, каб не твой наіў —
ужо ляжаў бы ў яме, ў тлелай грудзе.**

**З хадой-бядой ачмурнага жыцця
нясцерпная зямлі заныла крыўда,
зямлі, што ў сэрцы і тваіх касцях,
і час настаў аб тым сказаць адкрыта.**

**І боль і гнеў твой, і сляпы адчай
ляцелі ў залу, там з крамолы гэтай
калегі ніклі з бляскам у вачах,
казённыя саплі аўтарытэты.**

**У змове іхняй ты праслыў пасля
бяздумным блазнам—ані клёку й страху;
спакой, заробак, дый сяброў губляў,
і мо тады адчуў самапавагу.**

**Ужо даўно дні злічаны твае,
а радасна — хай смерць, а ці нягоды:
дзяржаўна са стагоддзяў паўстае
твая зямля няўхільна назаўсёды.**

## «Так» і «не»

**Аб тым, што «ісціна ў віне»,
за міг мільён разоў камп'ютэр
спытае, ўзважыць: «так ці не!»,
урэшце — «Не!», — і пэўна й крута.**

**Пытальны полюсны спарыш,
бывае, апячэ задачай,
у думках вугалём гарыць,
а ці адкажа адназначна!**

**З якой жа прастатой цяпер
хлапечы мітынг шматгалоса
адно благое пра цябе,
з былым жыццём тваім і лёсам!!**

**Хто зведаў болей свет былы,
дзе радасць і твой боль, і смутак,
свет, варты ганьбы і хвалы,
ці ж меркаваць, як той камп'ютэр!**

**Аб яўнай праўдзе і мане,
пры сённяшняй бядоце й скрусе
рашуча кажаш: «Так» і «Не!»
Ніхто на іншае не змусіць.**

## Накананаванне

**Над ягонай глыбінёй душы
часам ветрык ходзіць блазнаваты,
ён учынкам нейкім насмяшыць,
раптам мудрасць выверне, лабаты.**

**Трызніць ноч паліфаніяй слоў,
перагукі словаў, рыфмы ўспыхі,
слова й рэха распаляюць кроў,
згадваюцца зораў пераміргі.**

**Сніцца зор зенітны даўні гром,
б'ецца ў вушы зноў былое рэхам;
Зло гучыць магутней за Дабро,
Дык якая ж ёсць камусьці ўцеха!**

**Зноў свінцом, агнём шугае Зло,
труціць люд маной, і ўсю прыроду,
дзе ж зямля, здаровае жытло
без пакутаў, страху й недароду!**

**Грабяжы, зладзействы... Дык няўжо ж
на крыжах зямных каардынатаў
цэлы свет цяпер распяты ўжо,
дадзеных дзеля дабра Дэкартам!**

**Закрычы пра родны кут і дом,
зведай зноўку, чаго варта фраза...
Сіні бэз палае пад вакном
суму й жалю нейкаю абразай.**

**Цяжка долу нікне галава,
боль хапае загрудкі паэта;
чым яго хто можа ўратаваць,
калі жыць далей не здатны гэтак!**

## Спадчыннасць

**Сваё з нараджэннем кожны займеў:
ёсць спадчына родная, вечна жывая;
пад старасць маўчком нездарма памірае
у голадзе гордым Арол і Леў —
ніводзін аб'едкаў ніяк не ўжывае.**

●

**Вясна, вясна — пара сустрэчаў
з найпершай кветкаю, травой,
з лістотай, выраю малечай,
з буслямі, прэлай баразной
і ладанам сасновым свечак.**

**Клік параможны жураўоў
са стомленым павольным лётам
чамусьці чуецца мне зноў
з тужлівай восеньскаю нотай —
пары расстанняў і журботы.**

**Я падзялю парою той
журбу з травой, з лісцём барвовым,
але, крый божа, не з табой
расстанне ў покліч жураўовы —
навек мае замоўкнуць словы.**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# ПРАВА НА ГІМН

Рэдкасны выпадак, а галоўнае права ў беларусаў — абмяркоўваць, выбіраць, свой гімн. Спачатку падумалася, што такога здарэння яшчэ не было. «Мы — беларусы» прымаўся дырэктыўна, без грамадскага розгаласу. І, здаецца, пад націскам знешняй кан'юнктуры: трэба было Беларускай ССР як члену Арганізацыі Аб'яднаных Нацый тэрмінова абатрыбуціцца дзяржаўна. Іначай маглі б папрасіць...

Праўда, была раз спроба публічна абмеркаваць справу беларускага гімна, зыходзячы і з арганічнай, унутранай патрэбы. Было гэта на самым пачатку 20-х, калі не толькі гаварылі, але і змагаліся за суверэнную і непадзельную Беларусь. І ніхто іншы, як Янка Купала першы ўзяў быў тады слова ў справе гімну. У часопісе «Рунь» ад 23 мая 1920 года паэт пісаў: «Мы, беларусы, дзякуючы ў селяніна гістарычным і палітычным безгалоўем нашай бацькаўшчыны, вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў ды яшчэ і цяпер не можамо ў шмат якіх справах зраўняцца з імі. Абмінаючы ўсе іншыя недахопы нашага палітычна-дзяржаўнага і нацыянальнага жыцця, я хачу тут звярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гімну. Справа гэта вельмі важная і трэба канечна, каб наша ідэёвая інтэлігенцыя — паэты і кампазітары заняліся ёй паважна. Бо, папраўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гімнам выходзіць нейкая неразбярыха. Мы і маем гімн і не маем».

Недзе ў часе грамадзянскай вайны, якая на Беларусі пры калейдаскапічнай змене акупацый была не столькі грамадзянскай, колькі нацыянальна-вызваленчай, а, дакладней, адчайным намаганнем беларускай інтэлігенцыі дамагчыся суверэннасці сваёй зямлі, і ўзнік быў адзін з першых беларускіх гімнаў. Прынамсі, верш, якім потым рабіўся, стаў гімнам. Словы яго належалі Макару Краўцову, былому настаўніку, мабілізаванаму на першую сусветную вайну, у ходзе якой ён даслужыўся да прапаршчыка. Дарэчы, адзін суб'ектыўны штрых. Да напісання гімна, як сведчыць гісторыя культуры, не раз прычыняліся і людзі нават далекаватыя ад літаратуры, музыкі. Марсельезу, напрыклад, склаў малады лейтэнант французскай рэвалюцыйнай арміі Ружэ дэ Ліль, аўтарам польскага гімна з'яўляецца былы паўстанец, затым легіянер-дамброўшчык, закінуты лёсам у Італію І. Выбіцкі. Не быў Макар Краўцоў, сапраўднае прозвішча якога Касцявіч або Касцевіч, першарадным паэтам. Але ў вершы, што пачынаўся словамі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі на вольны родны свой прастор», сам час, беларуская ментальнасць, абуджаная вызваленчым парывам, загаварылі арганічнымі, уласцівымі ім словамі. Дух часу прамовіў вуснамі паэта, вадзіў пяро ў яго руцэ. Трэба было быць чалавекам перакананым у вышэйшых ідэалах свайго паўсталага да новага жыцця народа, заўзятым змагаром за іх, каб вырвалася з грудзей гэта рашучае:

**Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
Дамо адпор!**

Да месца быў і покліч маладога воіна-песняра, звернуты да братоў уставаць «на бой за славу і за волю народа беднага свайго» і смелы выклік шматлікім непрыяцелям вызваленчага руху беларусаў:

**Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.**

Верш Макара Краўцова — поўны жывых прыкмет часу, калі высокай хваляй уздымалася вызваленчае змаганне, рашаўся лёс Беларускай рэспублікі. Акрамя бел-чырвона-белага штандара, які, паводле выслоўя паэта, «пакрыў сабой народны рух», жывым пульсам б'ецца ў ім вера ў суверэнную, незалежную Беларусь:

**Браты, да шчасця мы
падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ
мацней —
У крывавых муках мы народзім
Жыццё рэспублікі сваей,
Жыццё рэспублікі сваей!**

Некага шакіруюць словы «ў крывавых муках мы народзім жыццё рэспублікі сваей». Але толькі хіба што не тых, хто хоць трохі ведае, як яна нараджалася ў 1918—1919 гадах. Гэта летась Вярхоўны Савет, у якім пераважае былая наменклатура, узяў і прагаласаваў за суверэнную Беларускую рэспубліку. Проста так, адным падняццем рук ці, дакладней, націсканнем кнопкі, прыняў гістарычны акт, які наша грамадства, здаецца, да канца не асэнсавала і сёння. Але каб гэта адбылося, трэба было мець за плячыма тысячагадовую гісторыю. Трэба было на алтар суверэнітэту, неяк з няпэўнасцю кажу, незалежнасці і аддаць некалькі пакаленняў ідэйнай інтэлігенцыі. Ад Антона Луцкевіча да Змітра Жылуновіча з Алесем Чарвяковым ды Усеваладам Ігнатоўскім да настаўнікаў - беларусазнаўцаў. Усіх іх паглынуў малох таталітарызму. Калі ў мінулую сусветную загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі, то на працягу 30—50-х гадоў з кожных ста беларускіх інтэлігентаў загінула не менш дзевяноста. Такая неверагодная на першы погляд і жорсткая ў сваёй праўдзе, рэальнасці статыстыка. Забівалі, каб народ не ўсвядоміў сваёй моцы, свайго права звацца народам, нацыяй. Забівалі з такім разлікам, каб не ўзняўся, прынамсі, яшчэ гадоў семдзесят — сто.

Сярод безлічы ахвяр на алтар свабоды рэспублікі і аўтары гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» — Макар Краўцоў і Уладзімір Тэраўскі. Стары адраджэнец У. Тэраўскі яшчэ ў 1914 г. арганізаваў першы беларускі хор у Мінску, апрацаваў сотні народных песень, стварыў музыку да беларускіх спектакляў, а таксама творы на словы Купалы, Бядулі, Чарота. У 1938 г. яго забралі з дому хворага, каб дабіць у Мінскай турме. Макара Краўцова арыштавалі на год пазней у Вільні, пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза. Таксама, мы бачым, — своеасаблівая ацэнка «апекунамі» беларускага народа аўтараў яго гімна. Так што выбачайце, шаноўныя прыхільнікі іншых тэкстаў і музыкі на ролю дзяржаўнай песні-сімвалу Рэспублікі Беларусь. Ёсць высокапаэтычныя вобразы ў прадстаўленых на конкурс тэкстах. Ёсць цікавае музычнае іх вырашэнне, адна музыка М. Равенскага чаго варта па сваёй глыбіні і сіле... Але ў твора Краўцова — Тэраўскага ёсць адна найсур'ёзнейшая перавага перад усімі пратэндэнтамі на высокае права звацца нацыянальным гімнам — функцыянальная адпаведнасць і апрабацыя часам, традыцыя. Ён зместам і формай адпавядае гімнічнай ролі. Нездарма, бо склаўся, стаў гімнам у ходзе вызваленчага руху народа. А значыць, быў нечым істотна адпаведны характару, мэтам і духу яго. Можа, патрабуе сучаснай аранжыроўкі і больш энергічнага, з прыкладаннем душы выканання.

Я думаю, што грамадскасць наша мае ўсе падставы, гістарычныя, ідэйныя, мастацкія, каб блаславіць стары беларускі гімн на новае жыццё. А яно прыйдзе. Нягледзячы на тое, што сычаць на беларускі суверэнітэт нехта з-за цемнаты, несвядомасці, іншыя з-за суму па былым, марачы пра рэстаўрацыю «бурбонаў». Чырвоныя прафесары, што нядаўна тлумілі юныя галовы утопіяй ды міфамі з навуковага камунізму. Заспяшаліся, завалхвалі ў «Политсобеседнике» ды ў «Политике - Позиции - Прогнозе». А то раптам, пачуўшы трубны збор абскуранцкага рыцарства, уклоніцца ценю Абэцэдарскага, успомніць, што яшчэ недзе некаму не адрабіў стары хлеб членкор з Беларускай акадэміі ды пачне гугнявіць аб тым, быццам народ наш нічога вартага не зрабіў у гісторыі, нават сімволікі сваё не прыдбаў... Карыстаюцца цяжкасцямі пераходу ад таталітарызму да прававога, дэмакратычнага грамадства, сеюць туман. Спадзяюцца на цемнату народную. А народ не такі ўжо і цёмны. Хоць спіць, але спіць чуйна, «як зерне ў раллі», сказаў бы паэт.

Таталітарызм не пройдзе. Час працуе не на яго. Занадта горкі досвед, зведаны народамі. Завялікая цана — мільёны жыццяў. Дык няхай жа ўзляціць над Беларуссю, якая ўсё-такі ідзе да рэальнага суверэнітэту, суровая і мужная песня:

**Мы выйдзем шчыльнымі
радамі
На вольны родны свой
прастор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!**

Ці ж не лейтматыў для сённяшняга і заўтрашняга дня беларускай дзяржавы, жыцця нашага з вамі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь?

**А. ЛЕСАЎЧУК.**

**У гаворцы, пачатай палемічнымі артыкуламі Алега Лойкі і Юркі Лявончыка, прынялі ўдзел Він. Каваленка, Ц. Ліякумовіч, а таксама шматлікія ўдзельнікі завочнага «круглага стала» «ЛіМа». Сёння свае погляды на стан сучаснага літаратуразнаўства і яго надзённыя задачы выказваюць дырэктар Інстытута літаратуры АНБ, доктар філалагічных навук Віктар КАВАЛЕНКА і выкладчык БДУ Павел НАВОЙЧЫК.**

# «Правінцыя» тэорыі ці «тэорыя» правінцыі?

Калі «ЛіМ» надрукаваў артыкулы А. Лойкі «З настальгіяй па тэорыі» і Ю. Лявончыка «Правінцыя», можна было здагадацца, што яны выклічуць дыскусію. Але, бадай, ніхто не прадбачыў, што яна атрымаецца такой ажыўленай. Здавалася, праблемы сучаснага літаратуразнаўства сёння мала каго цікавяць. Аднак жа размова разгарнулася шырокая і нават усхваляваная.

Артыкулы А. Лойкі і Ю. Лявончыка, з аднаго боку, як быццам палягчаюць удзельнікам «стала» іхнюю задачу, бо ацэнка ўжо па сутнасці дадзена і таму не трэба было траціць час на вытлумачэнне зыходных перадумоў уласнай пазіцыі. Зразумела: няма тэорыі — няма літаратуразнаўства, калі правінцыя — яго таксама няма. Але, з другога боку, размова і ўскладнілася, бо чым больш катэгарычна выказана ацэнка, тым шырэйшая аргументацыя патрабуецца як для згоды, так і для абвяржэння.

А ацэнкі і А. Лойкі і Ю. Лявончыка катэгарычныя, нават нечакана катэгарычныя, калі мець на ўвазе асабліва А. Лойку, які шмат зрабіў, каб літаратурная тэорыя ўзнімалася з сырых лагчын немудрагелістай правінцыйнасці. Але не будзем бараніць Алега Антонавіча ад яго самога. Па вялікім рахунку трэба прызнаць, што агульны крытычны пафас і аднаго і другога артыкула апраўданы, аднак, здавалася б, імёны хоць бы такіх творчых асоб у галіне літаратуразнаўства і крытыкі, як Р. Бярозкін (на вялікі жаль, ужо нябожчык) і А. Адамовіч, маглі б стрымаць у нейкай меры запал прафесійнай руплівасці ў праведным адмаўленні. Што датычыцца сусветнай вядомасці, то Р. Бярозкіна і А. Адамовіча як вучоных-славістаў мала ведаюць за рубяжом не таму, што канцэпцыі іх поглядаў не дацягваюць да нейкіх эстэтычных навацый, распаўсюджаных там, а таму, што дагэтуль саму Беларусь і яе літаратуру мала ведалі ў свеце.

Урэшце, на маю думку, сёння не так і важна, як ацэньваць творчы патэнцыял сучаснага беларускага літаратуразнаўства — ці са знакам мінус, ці знайсці пры гэтым і маленькі плюс, робячы скідку на цяжкія ўмовы існавання працягам цэлых шасці дзесяцігоддзяў. Рэпрэсіі — гэта не нейкі пабочны фактар, хай сабе і страшны, аднак пра які ўжо сёння можна згадваць ледзь не скорагаворкай. Рэпрэсіі вымалі з навукі, як і з літаратуры, жывую душу. Прычым, навука была пад асаблівым падазрэннем, бо яна дакладна фармуліравала свае абагульненні. М. Чудакова ў артыкуле «Паглыбіцца ў сумленны акадэмізм» слушна заўважыла: «Цэнзура ў навуковых выдавецтвах была самай жорсткай: улада баялася расхістання «фундаментальных», падтрымліваемых дзяржбюджэтам «ведаў» — дакладней догмы («Литературная газета», 4 снежня 1991 г.).

Вынікі ўсяго гэтага былі катастрафічныя. Абвальна падалі ўзровень філалагічнай падрыхтоўкі і навуковы прэстыж літаратуразнаўства. Таленавітыя людзі не хацелі звязваць свой лёс з той галіной дзейнасці, дзе ад іх саміх так мала залежала. Яны баяліся ганенняў, пакут і пастаяннай пагрозы жорсткай расправы. І хто іх за гэта асудзіць? Вядомы факт, што М. Зарэцкі пры арышце, развітваючыся з сям'ёй, раіў сыну не выбіраць прафесію, звязаную з літаратурным заняткам. Часта ішлі сюды пасрэднасці, прыстасаванцы. Таму так шмат у сучасным літаратуразнаўстве рэдзенькага маралізатарства, плыткага і натужлівага філасофствавання, наіўна-паказной значнасці.

Такім чынам, сучаснае літаратуразнаўства не можа несці толькі персанальную адказнасць за сваю слабасць і недаразвітасць. І гэтую акалічнасць трэба ўлічваць пры ацэнцы яго творчых магчымасцей, хоць, зразумела, яна, гэтая акалічнасць, не павінна апраўдваць адсутнасць у літаратуразнаўства патрабавальнасці да сябе.

Аднак галоўная праблема сучаснага літаратуразнаўства, мабыць, у тым, дзе шукаць выйсце са стану адсталасці і правінцыялізму. І тут, аказваецца, ёсць падстава для спрэчак і сур'ёзнага абгаварэння. Гэта пацвярджаюць сваім зместам і абодва згаданыя артыкулы, надрукаваныя ў «ЛіМе».

Як вядома, чым больш крызісная і разбуральная сітуацыя складваецца ў жыцці, тым больш радыкальныя, рэвалюцыйныя сродкі патрабуюцца для яе пераадолення. Гэта заканамернасць жыцця. Тым не менш радыкалізм уяўленняў, як выйсці са становішча заняпаду, не павінен быць безаглядным і мройным, ён павінен апірацца на цвёрды грунт рэальнасці. У пераходны ж перыяд, які цяпер перажываюць усе народы, што насялялі былы СССР, калі яшчэ шмат што толькі складваецца ў пэўную сістэму, толькі пачынае самавызначацца ў сваёй сутнасці, вельмі часта ўзнікаюць неверагодныя намеры, легкаважныя летуценні, урэшце модныя захапленні з прэтэнзіяй усё вельмі хутка прывесці ў норму. Некаторыя з гэтых захапленняў становяцца моцна ідэалагізаванымі і распаўсюджанымі сучаснымі міфамі—і тады супрацьстаяць ім нялёгка. Нешта падобнае назіраецца сёння ў культурным і духоўным жыцці рэспублікі.

Відавочны факт недастаткова высокага ўзроўню ў цэлым і нацыянальнага мастацтва, і літаратуры, і навукі шмат у каго правакуе надзею, што існуе нейкі яшчэ не знойдзены, нявыпрабаваны, але просты, гэта значыць — радыкальны, прароча-вырашальны шлях вырвацца з улады застою. Усё часцей і часцей на старонках друку ўзнікае паняцце «еўрапеізм» і заклік ісці ў Еўропу. Сапраўды, ізаляцыя былога Савецкага Саюза існавала, і нельга сказаць, што яна не нанесла шкоды інтэлектуальна-духоўным асновам нацыянальнай культуры. Але яна, гэтая ізаляцыя, больш за ўсё выяўлялася, трэба сказаць, у палітычнай сферы, у ідэалогіі і менш — у галіне культуры. Усё ж пры жаданні можна было прачытаць на рускай мове і Ф. Кафку, і Э. Іанэску, і Ж. П. Сартра, і А. Камю, а таксама творы філосафаў і тэарэтыкаў культуры Т. С. Эліота, К. Леві-Строса (з 70-х гадоў) і іншых. Тым не менш літаратуразнаўчых школ, падобных на зарубежныя, у нас не ўзнікала. Відаць, таму, што ўзровень і накіраванасць нацыянальнай ідэйна-эстэтычнай думкі былі іншыя. Іншы быў характар і яе ўнутранага самаўсведамлення.

Так што «еўрапеізм» у свядомасці беларускага літаратуразнаўства не зусім адсутнічаў. Гэта, па-першае. А, па-другое, нялёгка сказаць, што разумеецца пад «еўрапеізмам». Хіба І. Тургенеў, Ф. Дастаеўскі, Л. Талстой, А. Чэхаў не з'яўляюцца фігурамі еўрапейскай культуры і іх творчасць не вяршыня, дзе да яе вяршынь? Тое ж самае можна сказаць пра А. Весялоўскага, М. Бахціна, які цяпер надзвычай папулярны на Захадзе. Нам бы падняцца да іх узроўню. Ю. Лявончык справядліва, на мой погляд, піша: «...Навошта супрацьпастаўляць Захад — Усход?»

Аднак А. Лойка чамусьці дазволіў сабе даволі нігілістычна паставіцца да рускай класічнай літаратуры, што не можа не здзівіць. Ён піша, што адсталасць беларускага літаратуразнаўства тлумачыцца апрача іншых прычын яшчэ і тым, што яно «ў цэлым было нарматыўна сплецена з эстэтыкай рэалізму і народнасці рускай літаратуры XIX стагоддзя як з фактарам устарэлым, зжыўшым сябе, рарытэтным». Але хіба эстэтычныя ўяўленні Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Гарэцкага не складваліся пад уздзеяннем натхняльных і блізкіх творчых крыніц рускай класічнай літаратуры? Хіба гэтая акалічнасць не дапамагла ім стаць тым, кім яны сталі?

А. Лойка нават лічыць, што беларуская літаратуразнаўчая думка павінна паўтарыць пройдзеныя напрамкі зарубежнай навукі аж да асобных школ і канцэптуальных падыходаў і з апорай на іх набраць тэмп паскоранага развіцця. Сапраўды, у былым савецкім літаратуразнаўстве недаацэньвалася, напрыклад, псіхалагічная школа, вельмі моцна развітая на Захадзе дзякуючы вялікай папулярнасці вучэння З. Фрэйда, якое ў Савецкім Саюзе было па сутнасці забаронена. Ды і сама псіхалогія як навука не карысталася ідэалагічным даверам. Па гэтай лініі даследавання нашаму сучаснаму літаратуразнаўству варта і трэба шмат што пераняць і ўспрыняць. Але гэта не азначае, што традыцыі савецкага літаратуразнаўства страцілі сваю творчую сілу. Напрыклад, у савецкім літаратуразнаўстве аказаўся вельмі дасканала развітым сацыяльны метад аналізу, і яго плённасць яшчэ нідзе і нікім сур'ёзна не ставілася пад сумненне, калі не спрашчаць і не вульгарызаваць яго эстэтычнай сутнасці. Таму, думаецца, пры ўсёй неабходнасці шырокай вучобы беларускаму літаратуразнаўству наўрад ці варта вяртацца нанава да ўсяго пройдзенага зарубежнай эстэтыкай. Ды гэта, відаць, і немагчыма. Па-першае, навуковыя школы ўзнікаюць пры развіцці пэўнай культурнай сітуацыі, якая можа і не паўтарыцца ў іншых грамадскіх умовах. Па-другое, унутраны механізм паскоранасці, які патрабуе звароту да страчаных або няпройдзеных эстэтычных асноў мінулага, але добра засвоеных сталымі і высокаразвітымі культурамі, больш уласцівы, відаць, мастацкай творчасці як сістэме духоўна найбольш аўтаномнай і нацыянальна спецыфічнай і таму даволі замкнутай у параметрах уласных інтарэсаў і магчымасцей. Літаратуразнаўства, з'яўляючыся навукай, звяртаючыся да вопыту мінулага, мабыць, не выпрацоўвае ўнутранага працэсу паскоранасці, а ўспрымае патрэбныя ідэі і канцэпцыі ў адкрытым, непасрэдным запазычанні, без якіх-небудзь стрымліваючых перашкод. Яскравы прыклад — М. Багдановіч. Беларускае літаратуразнаўства і крытыка толькі пачыналі зараджацца, а ён ужо здолеў авалодаць, як даказаў М. Мушынскі, тонкімі прынцыпамі багата і цэласна развітой культурна-гістарычнай школы рускага літаратуразнаўства.

Такім чынам, праблема выхаду нашай нацыянальнай культуры, у тым ліку літаратуразнаўства, на Захад надзвычай складаная. Яна тым больш складаная па той прычыне, што дарога туды для нас можа пакуль што пралягаць або праз рускую мову і культуру або праз блізкую нам іншую, але развітую і шырока вядомую ў свеце. Каб прыйсці ў Еўропу па-сапраўднаму, творчая і навуковая інтэлігенцыя рэспублікі павінна вольна і на літаратурна-творчым узроўні валодаць еўрапейскімі мовамі. Але ў сучасных умовах — гэта далёкая мара. Ю. Лявончык, на мой погляд, правільна піша: «А вось якія мы — пытанне больш складанае, тут наскокам не возьмеш». Сапраўды, мы калі і прыйдзем у вялікі свет, то выключна праз духоўнае ўзвышэнне сваёй нацыянальнай культуры.

Аднак, мне здаецца, Ю. Лявончык дзесьці і пярэчыць сабе, калі прапануе дзеля росквіту беларускага літаратуразнаўства «паспрабаваць накласці іх (заходніх філосафаў і эстэтыкаў.—**В. К.**) ідэі на нашу літаратуру і паглядзець, што з гэтага атрымаецца». Я разумею: калі аўтар гаворыць пра «накладванне» еўрапейскіх ідэй на нашу культуру, ён меў на ўвазе не чыста знешнюю, трафарэтную акцыю, а глыбока творчы працэс засваення перадавых адкрыццяў у галіне літаратурнай навукі. І тым не менш у гэтым выказванні ёсць пэўная сэнсавая недакладнасць, якая штурхае на некаторае спрашчэнне праблемы літаратурных сувязей. Накладванне — гэта быццам прымус, у той час як плённае ўспры-

# Гасцінец у Еўропу

Як паказалі апошнія публікацыі А. Лойкі, Юркі Лявончыка, Він. Каваленкі, Ц. Ліякумовіча, настроі незадаволенасці станам айчыннага літаратуразнаўства з кухонных дыспутаў нарэшце выйшлі «на свет цэлы». І калі для адных згаданая дыскусія стала канчатковым прысудам беларускай савецкай літаратуразнаўчай школе, то для другіх яна засведчыла не толькі крызіс апошняй, але таксама гатоўнасць і неабходнасць выхаду на новы віток спіралі (успомнім дыялектыку).

Сапраўды, каб пераадолець крызіс у найменшыя тэрміны, трэба неадкладна ставіцца на шлях сінтэзу перадавых ідэй заходнееўрапейскага і набыткаў беларускага (якімі б нязначнымі яны камусьці ні падаваліся) літаратуразнаўстваў. Узыходжанне на новы віток мы мусім жа пачынаць з пачатку, з класікі і класікаў — з Купалы і з Коласа, тым больш, 110-я гадавіна — добрая прыступка для такога зачыну.

Нягледзячы на тое, што пра жыццё і творчасць народных песняроў напісаны дзесяткі кніг — манаграфій, артыкулаў, белетрыстыкі — і не адмаўляючы іх вартасцей, відавочна, што названыя ў дыскусіі хібы праявіліся і ў вывучэнні класікі. Разам з тым, несумненна, і Купала, і Колас з'яўляліся ўдзельнікамі агульнаеўрапейскага культурнага працэсу, незалежна ад таго, ведала пра іх Еўропа, альбо не, бо жылі яны ўсімі тымі клопатамі, якімі жыла Еўропа, разам з ёй перажывалі духоўны крызіс, выкліканы абвастрэннем сацыяльных, эканамічных і палітычных супярэчнасцей, і па-свойму рэагавалі на на яго. Каласальнае духоўнае напружанне, якое прывяло да выбуху трох рэвалюцый у Расіі, да актывізацыі рэвалюцыйнага руху ва ўсім свеце, да пачатку Першай сусветнай вайны, да пашырэння ў мастацтве самых розных плыняў авангардызму, ва ўмовах Беларусі паскорыла працэсы нацыянальнага адраджэння, абудзіла нацыянальную свядомасць шырокіх мас і вылілася ў фенаменальна хуткі рост літаратуры ад яе пачатковых форм да вышынь класічнай вытанчанасці. У ёй адначасова спалучыліся наіўнасць дзіцяці і нязграбнасць падлетка, рамантычная захопленасць юнацтва, разважлівасць сталасці і невычэрпная глыбіня старэчай мудрасці. Нашаніўская пара — гэта час першага выхаду беларускай літаратуры да праблем агульначалавечай значнасці ў арнаменце нацыянальных клопатаў. І даўно наспела патрэба зірнуць на наша пісьменства скрозь прызму агульначалавечай культуры, ацаніць на гэтым фоне арыгінальнасць ці пераймальнасць, вызначыць асаблівасці, ацаніць вартасці і недахопы — так бы мовіць, зарыентаваць у сусветнай гісторыі і часе.

Добра, калі хочацца сказаць і ёсць што сказаць, аднак вельмі важна, каб сказанае свет пачуў, інакш можна спадобіцца таму мужыку, што пакрыўдзіўся на пана і два гады з ім не размаўляў, а пан таго і не заўважыў. Мы колькі заўгодна можам папракаць Еўропу, што яна нас недаацэньвае, не надае дастатковай увагі, але пакуль не станем з ёй на роўную нагу, не загаворым з ёй на роўных (і ў палітычным, і ў навуковым сэнсах), да таго часу не дачакаемся жаданай прыхільнасці. Праўда, апошнім часам у свядомасці грамадства ўсё выяўней афармляецца, выкрышталізоўваецца ўсведамленне непазбежнасці і неабходнасці выхаду ў свет у сваім нацыянальным уборы, а не ў світцы з чужога пляча. І калі шырокія масы толькі-толькі дарастаюць да гэтай думкі, то перадавыя сілы нацыі ўжо на практыцы пачалі шырыць калісьці вузкую сцяжыну. На сённяшні дзень створаны і актыўна дзейнічаюць Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Скарынаўскі цэнтр. Гожа выгля-

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



# *Са словам сваім вякую...*

## Час

Не спі, душа.
А плоці дай спачыць...
Такая ноч!
Бы свечкі, тухнуць зоркі,
Што ў цемры гэтай небяспечна жыць...

І толькі дух з глыбінь яе высокіх,
Няўвідны і таемны, нібы гук,

Нутро маё зямное працінае,
І тчэ мой час, як павуту — павук,
І плоць маю на тлен пераціраe...

## Роднае слова

Якая ўсё-ткі незайздросная доля,
Качу і качу сваё роднае слова,
Выдыхнуўшы з гартані,
Смакуючы на языку,
Абмацваючы на моц зубамі, —
Усе варочаюцца назад.

Сам са сваім словам вякую...
З ім самотны,
З ім,— і шчаслівы...
І толькі адно слова «ма-ма»
Даходзіць да адрасата,
Ды і на яго, як на крык немаўляці,
Хутка ўжо не будзе каму адгукнуцца.
Што ж, тады сам сябе буду клікаць,
Сам — адгукацца.
Сам стану Словам,
Сам — сутнасцю і разуменнем Яго.

●

Каханне — гэта адзінота...
Начная келля... Згубны сон...
Самота музыкі, дзе нота
Адна гучыць не ва ўнісон...

Каханне — гэта выпадковасць
Быць не шчаслівым, а святым,
І на бажніцу ці падкову
Маліцца ў святы і ў пасты...

Каханне — вечная хімера,
Убачыць рукі з-пад манто...
Журба і заўтрашняя вера
Ва ўсё, што сёння быць магло.

...Як вецер форткі прыхіляе,
Нібы пялёсткі кветак — ноч,
Так слова згубнае «КАХАЮ»
Хай стуліць вейкі Вашых воч...

## Душа і плоць

Зазірну ў душу, нібыта ў студню.
І ў халоднай гулкай глыбіні
Воблік свой убачу там паскудны,
Хоць хавай ты вочы ў далані...

О browse браткі, які я ўсё ж мізэрны.
А пыхлівы! Твар — адны рубцы...
Бы актор, што на пачатку сцэны...
Робіць жэст, што быў напрыканцы.

Даў-то Бог, душа яшчэ свіціцца —
Плоць люструе чыстай глыбінёй...
І шкада, што ўжо ім не злучыцца,
Быццам небу з чорнаю зямлёй.

# ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**



## Згадкі ў дарозе

З прапановаю паехаць у Францыю, каб наладзіць сувязь паміж Беларускім камітэтам абароны міру і Камітэтам Руху за мір Ронскага дэпартамента, да мяне звярнуліся яшчэ ў маі. Потым гэтая камандзіроўка ўсё адкладвалася і адкладвалася, і я падумаў ужо, што яна наогул не адбудзецца. Ды ў лістападзе кіраўніцтва асацыяцыі дружбы «Францыя — Беларусь» горада Ліёна, пабраціма Мінска, якая разам з Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі рыхтавала паездку, паведаміла, што ў іх усё гатова да прыёму гасцей. Усяго ў групе 29 чалавек — прадстаўнікі мінскага гарвыканкама, самых розных арганізацый, таварыстваў, устаноў, праваслаўнай царквы, тэлебачання. У кожнай мінідэлегацыі, з якіх складаецца група, у Ліёне свае задачы, працаваць будзем аўтаномна.

І вось самалёт бярэ курс на Жэневу. Пасля васьмісоткіламетровага падарожжа аўтобусам да Масквы, надта тлумнай ночы, праведзенай у перапоўненым людзьмі і такім зараз абшарпаным Шарамецьеве-2, мае суседзі па крэслах знясілена дрэмлюць. А я гляджу ў ілюмінатар на сумёты белых аблачын, якія паўзуць пад крылом самалёта, і згадваю сваю першую паездку ў Францыю. Тады, у 1982 годзе, пасля вялікага перапынку, звязанага з пагаршэннем адносін паміж дзвюма краінамі, Савецкі Саюз зноў адкрыў свой павільён на традыцыйным Ліёнскім міжнародным кірмашы. Звычайна, па даўняй завядзёнцы, экспазіцыя павільёна прадстаўляла адну з пятнаццаці рэспублік. На гэты раз гаспадыняю была Беларусь. Жыхары і госці Ліёна, якія заходзілі ў павільён, са здзіўленнем і захапленнем адкрывалі для сябе невядомы народ — беларусаў, розумам і працавітымі рукамі якіх створаны грузавыя аўтамабілі, трактары, металарэзныя станкі, матацыклы, веласіпеды, тэлевізары, магнітафоны, халадзільнікі, скураны абутак, адзенне. Французскія модніцы зацікаўлена прымяралі прыгожыя, выдатна сшытыя льняныя блузкі, спаднічкі і сукенкі — вырабы Мінскага дома мадэляў. Памятаю, як доўга стаяла перад трыльяжам і глядзелася ў люстэрка сімпатычная доктарка, а яе русявая дачушка-шчабятушка ў гэты час гушкала вялікую ляльку, зноў жа зробленую з лёну. Як ні прасіла маладзіца прадаць ёй упадабаную блузку, ды не ўдалося. У нас тавару не было (як ва ўсіх удзельнікаў кірмашу), а меліся толькі экспанаты. Затое дачушка пайшла задаволеная, я ўгаварыў дырэктара павільёна падарыць малой ляльку, бо ў запасе іх было каля двух дзесяткаў. Мы пазнаёміліся, крыху пагаварылі, тады я і даведаўся, што мадам Лавэль працуе дзіцячым урачом. Пры развітанні ўзбуджаная Жанет (яшчэ б, атрымала такі падарунак!) абняла мяне за шыю белымі ручанятамі і пацалавала. І я тады падумаў, як нашу чалавечую долю можна лічыць гаротнай, калі яна дорыць такі цуд — дзяцей, калі ад няўлоўнага дотыку пяшчотных пасмачак, ад цяпла даверлівай і мілай шчакі раптам душа напаўняецца дзіўнай музыкай і святлом? Гэтая сустрэча асвяціла ўсе мае тыя ліёнскія дні.

Спадабаліся французам і беларуская музыка, песні, што гучалі ў выкананні вакальна-інструментальнага ансамбля «Верасы», які выступаў яшчэ тым, даўнейшым сваім складам, маючы ў рэпертуары шмат нацыянальных твораў. У іншых павільёнах такіх канцэртаў не давалі. Здаецца, толькі бразільцы ці мексіканцы здагадаліся таксама такім чынам прываблiваць наведвальнікаў да сваёй экспазіцыі. А сапраўды, сам быў сведкам, некаторыя ліёнцы прыходзілі ў наш павільён толькі дзеля таго, каб паслухаць беларускіх артыстаў. Звычайна слухачы стаялі, бо нейкай спецыяльнай канцэртнай залы з крэсламі тут не было. Прыгадваю настаўніцу французскай мовы (пасля я пазнаёміўся з ёю і падоўгу гутарыў), якая знайшла выйсце. Першы раз яна і яе выхаванцы некалькі гадзін адстаялі на нагах і, канешне ж, стаміліся. На другі дзень вясёлая каманда з'явілася ў павільёне з маленькімі складнымі крэселкамі, паставіла іх перад імправізаванай сцэнаю і, утульна ўладкаваўшыся, слухала выступленні. Настаўніца, многія вучні і іншыя наведвальнікі запісвалі музыку і песні на магнітафоны, бо пласцінак з запісам «Верасоў» не было. А, на думку арганізатараў кірмашу, якія мелі нюх на такія рэчы, за дзесяць дзён разышлося б больш за дзесяць тысяч пласцінак. Вось табе і новая апаратура для ансамбля!

Дарэчы, французы здзіўляліся гэтай нашай непрактычнасці. «Кірмаш наладжваецца,— гаварылі яны,— каб не толькі паказаць тавар, але і прадаць яго».

1500 фірмаў з усяго свету ўдзельнічалі ў кірмашы. Яны заключалі дамовы на пастаўку вялікіх партый тавараў, прадавалі паштучна тут жа ў сваіх павільёнах. Нарасхват ішлі японскія і амерыканскія аўтамабілі, аўдыя-і відэамагнітафоны, тэлевізары, музычныя інструменты, італьянскія пыласосы і г. д. Нават прадстаўнікі каралеўства Манака, якія прывезлі на кірмаш толькі пераносныя басейны і туалеты для дачных участкаў, паспяхова рэалізоўвалі свой тавар.

І толькі наша някепская прадукцыя была выстаўлена ў адным экземпляры (праўда, для падстрахоўкі ў запасе меліся яшчэ два-тры аналагічныя ўзоры). Так, паказаць, што і мы не лыкам шытыя, нешта ўмеем рабіць, змаглі, а эканамічнага эфекту —аніякага. Ды што тут казаць, савецкую партыйна-дзяржаўную сістэму клапаціла заўсёды не рацыянальнае, эканомнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў прамысловасцю і сельскай гаспадаркаю, не стварэнне канкурэнтаздольнай прадукцыі, не выгадны гандаль з іншымі краінамі, не нармальны чалавечы дабрабыт, высокі жыццёвы ўзровень народа, а прапагандысцкі эфект і, канешне ж, паказ сваёй ваеннай сілы.

У дачыненні да гэтых слоў прыпамінаю такі эпізод. Генеральны дырэктар кірмашу — буйны ліёнскі прадпрымальнік (на жаль, не магу ўспомніць яго імя і прозвішча), прапанаваў неяк нам— прадстаўнікам Беларусі — разам з ім адпачыць. Ён закупіў на цэлы вечар невялікі, але шыкоўны загарадны рэстаран, запрасіў яшчэ трох сваіх блізкіх сяброў з жонкамі. «Вельмі хочацца бачыць на вячэры вашых артыстаў,— папрасіў ён.— І нам будзе з імі весела, цікава, і яны, хоць крыху, адпачнуць».

І вось у суботу адвячоркам да нашага павільёна падкацілі чатыры раскошныя лімузіны. Мы ў гэты час грузілі ўжо ў аўтобус рыштунак «Верасоў»: скрыні з інструментамі, стойкамі. Я здзівіўся, калі генеральны дырэктар правёў апранутых у вячэрнія туалеты дам у салон нашага аўтобуса і рассадзіў па крэслах. Бясспрэчна, і «Мерседэс», што абслугоўваў нас, на якім звычайна вазілі савецкіх маракоў з Гаагі ў Маскву і назад — змянялі экіпажы суднаў далёкага плавання, вызначаўся павышанай камфартабельнасцю. Але ж у праходзе стаяць скрыні, над крэсламі вісяць касцюмы артыстаў — цеснавата. Ці не лепш было б ехаць да месца на сваіх аўто?

Прыемна ўразіла і тое, што генеральны дырэктар скінуў пінжак, закасаў рукавы сарочкі і пачаў разам з намі цягаць артыстычны рыштунак. Ягоныя сябры, а гэта былі немаладыя людзі, таксама, як маглі, дапамагалі. Паднімаючы разам са мною чарговую скрыню, генеральны дырэктар не заўважыў цвік, які вылез з дошкі (наша, роднеnькая тара!), і добра-такі распаласаваў сарочку. «Ну вось, і на табе,— пашкадаваў я.— Лепш бы вы не чапалі гэтыя скрыні. Мы б і самі пагрузілі». Ён усміхнуўся і махнуў рукою: «Такой бяды. Усё нармальна. Адпачываць, слухаць музыку будзем разам, то трэба сумесна і папрацаваць. Без гэтага не будзе асалоды ад нашага адпачынку».

Разгарачаны працаю, выціраючы насоўкай узмакрэлы лоб, ён зайшоў у аўтобус самы апошні. Сеў побач на крэсла і прадоўжыў гаворку з хітрынкаю ў вачах:

— Мне расказвалі, што ў вас на рабоце звычайна гавораць пра адпачынак, а ў час адпачынку — пра работу. Мы ж — французы — любім так: калі працаваць, то з вялікаю аддачаю, калі адпачываць, то — поўнае расслабленне.

Я спакойна зрэагаваў на гэтыя словы, не пакрыўдзіўся, бо ведаў, што мой суразмоўнік мае рацыю. Сотні тысяч людзей у розных нашых установах, НДІ, якіх развялося столькі, што не злічыць, сапраўды часта не ведаюць, чым заняцца проста праціраюць штаны. Ды і не рабочыя не надта шчыруюць, бо ўраўнілаўка душыць жаданне працавітага чалавека зарабіць болей. Але і маё назіранне выклікала здзіўленне:

— Няўжо вы і вашы сябры не паехалі на сваіх аўто толькі дзеля эканоміі бензіну? Улічваючы прыбыткі, якія вы маеце, гэта азначае, як у нас кажуць,— эканоміць на запалках.

Генеральны дырэктар засмяяўся:

— Словы справядлівыя, ды не зусім. Канешне ж, мы селі ў ваш аўтобус для таго, каб пабыць болей разам, бліжэй пазнаёміцца, пагаварыць. Але і эканомію не трэба забываць. Навошта ганяць туды-сюды машыны, калі ёсць аўтобус. Калісьці ў маладосці, я тады толькі пачынаў станавіцца на ногі, мой бацька — даволі вядомы ў горадзе адвакат — даў мне дзесяць тысяч долараў і сказаў: «Плыві далей!» Доўгі час даводзілася, як вы кажаце, эканоміць на запалках. Гэта засталося. Дарэчы, на Захадзе ўсе лічаць грошы, адным днём не жывуць. Так вядзецца спрадвеку.

У вас іншае жыццё. Вы спадзеяцеся на дзяржаву, якая не надта высока ацэньвае і аплачвае працу сваіх грамадзян, але не дазваляе ім паміраць галоднаю смерцю. Так, дзяржава ваша вялікая і багатая. Шкада толькі, што на чале яе не стаяць сапраўдныя гаспадары — разумныя, прадпрымальныя, ашчадныя людзі. Вельмі аслаблена пачуццё гаспадарлівасці і ў простых грамадзян. Усё наша, а гэта азначае —нічыё. Я быў у СССР, ведаю сітуацыю. Столькі рэсурсаў, людской працы марнуецца! Калі б увесь патэнцыял вашай дзяржавы працаваў не на ўзбраенне, а на карысць народа, вы жылі б значна лепей, чым французы. Паверце, гэта праўда. І я шчыра жадаю, каб так і сталася.

Вечар у «Каралеўскім рэстаране» быў выдатны. Ён помніцца не толькі ўтульнасцю і прыгажосцю залы і пачакальні перад ёю, дзе стаялі сплеценыя з лазы крэслы, у якое сядзеш — і цябе нібыта захінаюць крысом, сатканым з жывых кветак, бо і сапраўды з усіх бакоў яны наплываюць, хвалююць, дурманяць, таму што сцяблінны, густа ўсеяныя імі, віюцца па баках, спінцы седала; не толькі нязвыклым, неабмежаваным выбарам напіткаў: каньякі, гарэлка, віно, шампанскае самых розных і найлепшых гатункаў; не толькі экзатычнасцю страў, калі на стол падавалі, скажам, жабіныя кумпячкі, запечаныя ў спецыяльным соусе, з падліўкаю, якая сваім колерам была надта падобная на зялёную раску сажалкі (суседка па століку сказала, што жабы ў жывым стане сёння раніцою дастаўлены самалётам з В'етнама, што адна порцыя каштуе столькі, як і модная жаночая сукенка); не толькі далікатнасцю і выкшталцонасцю абслугоўвання. Спадабалася сама атмасфера вечара — прыязная, сардэчная. Гаворка за столікамі не перакідалася з простых, чалавечых, блізкіх кожнаму тэм — сям'я, дзеці, любімыя музычныя і літаратурныя творы — на палітыку. Спявалі, танцавалі, весяліліся. Французы ўразілі сваёю раскаванасцю, непасрэднасцю, а таксама шчырым жаданнем зрабіць усё, каб нам было і цікава, і прыемна.

У Ліён мы ад'язджалі на досвітку. Рыштунак артыстаў зноў пераносілі дружнаю грамадою. Так жа, усёй кампаніяй, дзякавалі гаспадару рэстарана і шэф-повару — рыжаму, агромністаму, усмешліваму немцу, які выйшлі нас праводзіць.

Калі французы перасаджваліся з аўтобуса ў свае лімузіны, генеральны дырэктар прамовіў: «Ну вось, выдатна адпачылі, а цяпер будзем працаваць. Дзякуем усім вам за такі цудоўны вечар!»

Я не сумняваўся ў шчырасці ягоных слоў, бо сапраўды настрой у французаў быў прыўзняты. Падумалася: як натуральна ў іх спалучаецца ашчаднасць з

# А пакуль паклонімся Карлсану,

## або Цыркавая сітуацыя

СКАЖУ Я ВАМ, не так ужо гэта і смешна, калі цыркавая сітуацыя ўзнікае ў самім цырку. Памятаеце, што здарылася пасля колішняй публікацыі «Ключы ад цырка Беларусі»? Мы рэпліку давалі — «Цыркавы трук» з міліцыяй» («ЛіМ» за 27.03.92 г.). Дык жа яна натхніла адміністрацыю дзяржцырка на новы фокус: начальнік варты... знік! Як тут і не было. (Ну, звольнілі чалавека. І ўвесь фокус. І зусім не смешна).

На самім манежы куды весялей, чым за яго кулісамі. Героі нашых публікацый, яны ж і пацярпелыя, запрасілі паглядзець, што робіцца на арэне летняга цырка. Пра яго існаванне ў горадзе ведаюць далёка не ўсе, і дарога да шапіто на вуліцы Арлоўскай пакуль не асвоена мінчанамі. Відаць, рэклама чэрвеньскіх вечаровых прадстаўленняў не на ўзроўні аказалася. Так што амаль пуставаў на пачатку лета цырк у двухмільённым (ды з тысячамі прыезджых) горадзе.

Вось тады нашы знаёмцы В. Маторын, В. Кашуба ды В. Крамянецкі, энтузіясты стварэння цырка Беларусі, так і не атрымаўшы магчымасці рэпеціраваць у стацыянарных умовах першую задуманую імі нацыянальную праграму, ухапіліся за ўжо гатовую, зборную, што «гарэла» пад купалам шапіто. Прыдумалі новую сцэнарную канву, звярнуўшыся па дапамогу да папулярнага ва ўсім свеце Карлсана, які жыве на даху, дадалі ўжо гатовыя нумары беларускіх цыркавых артыстаў, заняліся рэкламай, — і прывабная для дзяцей цыркавая казка пачала збіраць поўную залу гледачоў. Маленькіх у суправаджэнні старэйшых.

Мова цыркавога мастацтва, як і «лексіка» спорту, інтэрнацыянальная. І на пару фанаграм рускіх народных песень, адпаведныя касцюмы ды «матрёшечный» рэквізіт — усяго толькі «абгортку» асобных нумароў, — можна не зважаць: праграму ж давялося «кроіць» з прапаноў Расійскай цыркавой кампаніі. Тым больш, усё астатняе — плён фантазіі ды арганізатарска-творчых высілкаў нашых землякоў на чале з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Валерыем Маторыным. Ён, дарэчы, сам працуе ў манежы, з адметным артыстызмам дэманструючы разнапланавае мастацтва клоуна. То ён элегантны (у цыліндры й фраку!) казачнік з мяккімі добрымі манерамі. То ён зламыснік з «чужым» нізкім голасам ды гратэскна-хуліганскай знешнасцю. Гэты грабежнік разам са сваім кампаньёнам наважваецца скрасці чарадзейны званочак веселуна Карлсана, які ўсіх запрасіў на дах, каб паказаць розныя дзівосы...

Дык што дзівосы? Былі! Гімнасты, акрабаты, эквілібрысты, фокуснікі, жанглёры... І дрэсіраваныя жывёліны на прыёме ў доктара Айбаліта ды на пажары ў кашэчым доме. Беларускія артысты добра паказаліся: група пад кіраўніцтвам Леаніда Парнюшкі, Алеся Гулевіч, Сяргей Дудар...

Гэтыя б дзівосы ды ва ўмовы цырка стацыянарнага, належным чынам аснашчанага-абсталяванага. Ды каб на арэну выйшаў калі-небудзь (следам за ўлюбёнцам усёй дзятвы Карлсанам) і герой беларускіх казак — Пакацігарошак, напрыклад, з прыгодамі якога таксама можна было б звязаць цыркавыя нумары і зладзіць займальную фабулу...

Мары, мары... Калі тое будзе! Дзякуй хоць Карлсану — дапамог энтузіястам утрымацца на мяжы роспачы, не апусціць рукі. Спектакль, зроблены імі, вымагае няшмат атрыбутыкі, просты для пастаноўкі ў вандроўных умовах, мабільны — нездарма яго купляюць для пракату польскія калегі. А яшчэ прапанавалі В. Маторын, В. Кашуба ды В. Крамянецкі замяніць маскоўскіх артыстаў беларускімі, пакінуўшы толькі нумары дрэсіроўшчыка А. Папова (аналагічнага ў сябе няма), і паказваць праграму, пакуль тыя халады, у летнім цырку: пры добрай рэкламе гледачы знойдуцца, шапіто ў прастоі не будзе, прынясе прыбытак. Між іншым, і Міністэрства культуры гэты намер ухваляе-падтрымлівае, як і саму ідэю стварэння нацыянальнага цырка Беларусі, пра што распавядалася ў сёлетняй лімаўскай публікацыі (гл. нумар за 6.03.92 г.).

Дзякуй міністэрству на добрым слове... Але што ёсць слова на фоне ўчынкаў тых, каму ідэі ды дзеянні заснавальнікаў альтэрнатыўнага цырка не даспадобы? Гаспадары памяшкання не даюць беларускім артыстам рэпеціраваць на манежы, пакуль кожны з іх не заплаціць за арэнду 2,5 тыс. рублёў (?!). Без аніякае платы дазваляюць займацца ў сваіх залах спартыўныя арганізацыі, кіраўнікі заводскіх палацаў культуры, а тут...

Узгадаваць артыстаў для нацыянальнага цырка Беларусі — хіба гэта не дзяржаўны клопат? Чаму ж тады дырэкцыя дзяржцырка займае такую недарэчную і недальнабачную пазіцыю ў стасунках са сваімі, здавалася б, роднымі дзецьмі: хочаш увайсці ў дом — плаці?

Сумна ўсміхаюцца ветэраны цырка: «Гэта ж амаль тое самае, што, сустрэўшы ў роднай хаце сына, які вярнуўся з далёкіх краёў, бацькі прад'яўляць яму рахунак «за пастой». Гаспадар «хаты», дырэктар Мінскага дзяржцырка І. Пашкевіч ніякіх нашых довадаў не прымае. Пад гэтым дахам квітнее прымітыўны, але, відаць, вялікі гандаль: нават афішы на праспекце заклікаюць наведаць гандлёвы цэнтр у цырку! У Міністэрстве культуры нам параілі пашукаць з І. Пашкевічам агульную мову. А яшчэ лепей — пацярпець два гады: роўна столькі засталося дырэктару да пенсіі. Маўляў, вы ва ўсім маеце рацыю, але трэба ж чалавека пашкадаваць, даць яму дабыць да пенсіі на пасадзе, не выкідаць жа ў белы свет...»

Цярпець-то можна, ды толькі два гады ў творчым працэсе — вельмі многа! Можна і пацярпець, але на каго потым наракаць, калі разбягуцца хто куды, адчуўшы сябе ашуканымі, маладыя артысты, калі страцяць спартыўную форму надзеі нашай цыркавой акрабатыкі, калі... Цікава, што дырэктар Гомельскага цырка Я. Лабовіч гатовы хоць сёння, і бясплатна, прадаставіць памяшканне для рэпетыцый удзельнікам першай беларускай праграмы. Ну, а ў Мінску...

«А ў Мінску, — працягваюць В. Маторын, В. Кашуба ды В. Крамянецкі, — Пашкевіч ствараe сваю «беларускую» праграму пад назваю «Заўсёды свята». Схаваўшыся за беларускія апранахі, у якія прыбяруцца запрошаныя для ўдзелу ў прадстаўленні расійскія артысты, ён адрапартуе пра ўклад у нацыянальнае цыркавое мастацтва. Адыграўшы прэм'еру належны тэрмін, гастралёры з'едуць, а беларускія артысты (для іх гэтае «Заўсёды свята» будзе чорным днём) так і застануцца за парогам свайго цыркавога дома, які зрабіўся чужым...»

Дык, можа, добры Карлсан з дапамогай свайго чарадзейнага званочка спыніць, нарэшце, відавочную несправядлівасць ды бязладдзе? Але ж ёсць у нас адказнае і за цыркавую сітуацыю ў рэспубліцы Міністэрства культуры! Ёсць, урэшце, і генеральны дырэктар Рэспубліканскага цэнтра эстрады і цырка А. Літвіновіч. Будзем спадзявацца, што чалавек ён невыпадковы на сваёй пасадзе і як свядомы кіраўнік паспрыяе, каб дырэктар дзяржцырка І. Пашкевіч і дырэктар летняга цырка Ю. Навумовіч не цкавалі сваіх «родных дзяцей» з парога, не абдзіралі як ліпку, а стварылі спрыяльныя ўмовы для ўзгадавання будучых беларускіх «зорак» манежа.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**





На здымках — фрагменты праграмы.

Фота У. ПАНАДЫ.

---

Калі гаспадар падышоў да мяне, каб яшчэ раз наліць віна, я спытаў: «Скажыце, Клод, вы задаволены сваім лёсам? Даводзіцца ж працаваць па дванаццаць гадзін, планаваць, лічыць, іншыя клопаты. Пытаю, таму што ў нас цяпер пачынаюць узнікаць фермерскія гаспадаркі. Але гэты працэс стрымліваюць камандзіры калгасна-саўгаснай вытворчасці, ды і самі людзі яшчэ сумняваюцца».

Клод уважліва паглядзеў мне ў вочы, падумаў і няспешна мовіў:

— Адкажу так—у кожнага чалавека ёсць свае схільнасці. Галоўнае, каб не было гвалту над ім. Хай сам вырашае, што яму рабіць. Скажам, я не магу сябе ўявіць без гэтай зямлі, палітай потам маіх продкаў, без вінаграднай лазы. Канешне ж, трэба шчыраваць, проста так нічога не даецца. Але я сваім жыццём задаволены. Усё, што маю, дала мне зямля. А нехта шукае сваю долю ў горадзе. І на здароўе. Павінен быць выбар. Я зрабіў яго. Гэта так, як з віном. Напрыклад, ліёнцы аддаюць перавагу «Берагу Роны (Кот дзю Рон)», а парыжане любяць «Божале»...

Слухаў я гэтага спакойнага, упэўненага чалавека, які цвёрда стаіць на сваёй зямлі, і думаў: «Колькі ж беларускіх гаспадароў, такіх, як Клод, было вынішчана за гады савецкай улады: выселена на смерць у Сібір, на Поўнач, закатавана ў сталінскіх канцлагерах, расстраляна? Колькі пакутаў зведалі іхнія жонкі і дзеці, калі нават камусьці з іх пашчасціла ўратавацца ад смерці? Колькі сялянскіх сыноў і дачок загінула ў апошнюю вайну, колькі іх вымелі з нашых вёсак вярбоўкі, наборы рабочай сілы на «грандыёзныя будоўлі веку»?»

Падлічыць гэта немагчыма. Ды і лічбы не пакажуць усё, не раскажуць пра мільёны скалечаных чалавечых лёсаў. Больш красамоўна пра трагедыю беларускага сялянства сведчаць апусцелыя вёскі, палі і лугі, што зарастаюць хмызняком, чахмарнікам і чартапалохам, нястача танных і якасных прадуктаў у нашых крамах, панылаcць і абыякавасць, якія пасяліліся ў душах людзей.

У кожнага народа няма большага багацця, чым зямля, яе нетры. Заўсёды яна была і карміцелькай, і запасам трываласці чалавека. Зямля і чалавек паяднаны спрадвеку, і гэтую повязь нельга рушыць. Але палітычныя фанатыкі, правадыры рэвалюцыі, якія самі не працавалі ніколі, не маглі адрозніць ячмень ад аўса, распачалі над сялянствам свае дзікунскія эксперыменты. І вось вынік.

Як абрыдлі ўжо ўсім словы, што часта гучаць у часе сесій беларускага парламента: «Наша задача—накарміць народ». Ды пабойцеся Бога, шаноўныя! Ніколі не накарміў і не накорміць народ ніхто, апроч яго самога. Спыніце пустапарожнія спрэчкі, прыміце справядлівыя законы, дайце народу зямлю і волю, і не вы, а ён накорміць, апране і абуе і сябе, і вас.

Канешне ж, ніхто не заклікае нішчыць тыя калгасы і саўгасы, дзе вытворчасць наладжана, знаходзіцца на стабільным высокім узроўні. Няма сумніву і ў тым, што станаўленне фермерства будзе надзвычай цяжкім і працяглым па часе. Псіхалогія адбывалаўкі-ўраўнілаўкі, якую ў галовах людзей выпрацавала і замацавала практыка калектыўнага гаспадарання на зямлі ў яе савецкім варыянце, жывучая, і яе адным махам не пераадолець. Знаёмыя механізатары, неблагія па нашых мерках працаўнікі, калі заходзіць гаворка пра фермерства, кажуць: «Гэта ж мне давядзецца працаваць ад цямна да цямна. Самому трэба будзе планаваць, лічыць, думаць, каб не прагарэць. А сёння мне думаць не трэба, на гэта ёсць старшыня, аграномы, інжынеры. Калі ж нешта не так—спішацца, калгас вялікі. А я пяць-шэсць гадзін адпрацаваў — і ўсё. Трактар у руках, паліва дармовае, калгаснае. Каму дроў, сена прывёз, каму ўзараў пляц, каму яшчэ нешта зрабіў—глядзіш, і пляшка ёсць, і грошы. Выпіў, закусіў, спакойна выспаўся—і галава не баліць. Ніякага багацця мне не трэба, і так добра». А людзі пенсійнага ўзросту гавораць так: «Мы б узялі зямлю, але сіла ўжо не тая, не выцягнем».

Так, сённяшняя вёска і яе людзі зусім не такія, якімі яны былі раней. Пачварная таталітарная рэпрэсіўная сістэма, якая навісала змрочным ценем над сялянінам, вытравіла з душы вясковага чалавека пачуццё гаспадарскай апантанасці, разбурыла спаконвечныя мудрыя традыцыі. І ўсё ж не да канца. Варта толькі ўспомніць, колькі сельскагаспадарчай прадукцыі паступае з хлеўчукоў і прысядзібных участкаў (напрыклад, бульбы—каля 70 працэнтаў ад агульнай колькасці), дзе ўсё робіцца рукамі, дзе ўся механізацыя—вілы, рыдлёўка, матыга, а ў лепшым выпадку—адзін конь на цэлую вёску. А паглядзіце, як пацягнуліся да зямлі гарадскія жыхары, з якімі пакутамі, але ж вырошчваюць яны нейкую бульбіну, памідорыну, гурок на свой стол.

Зямля прыцягвае, яна абавязкова дачакаецца прыходу сапраўдных гаспадароў. Нельга не разумець, што новыя мільярды рублёў, укладзеныя ў стратныя калгасы і саўгасы, як і раней, будуць выкінуты на вецер. Гэтыя сродкі павінны трапіць у рукі зацікаўленых людзей, якім сёння патрэбны і пазыка, і тэхніка, і ўгнаенні, і насенне, і будаўнічыя матэрыялы. З адною рыдлёўкаю фермерам не станеш.

Але дзе там, паспрабуй усё гэта атрымаць! Затое цяпер, як чума, коціцца па беларускай вёсцы «начальніцкая прыхватызацыя». За бясцэнак камандзіры калгасна-саўгаснай вытворчасці скупляюць машыны, будаўнічыя матэрыялы і многае іншае для сябе і сваіх родзічаў, сяброў, па сутнасці, раскрадаюць народнае дабро.

Пакуль не позна, вёску трэба ратаваць. І змогуць уратаваць яе пры паўсядзённай увазе і падтрымцы дзяржавы не дачаснікі, не «перакаці-поле», а гаспадары, бо, як гаворыцца ў «Першым пасланні да карынфянаў святога апостала Паўла»: «...кто пашет, должен пахать с надеждою, и кто молотит, должен молотить с надеждою получить ожидаемое».

Чалавек, у якога няма нічога, апроч ягоных рук,—гэта раб. Любая ўласнасць, кавалак сваёй зямлі даюць яму свабоду, незалежнасць, самастойнасць, вяртаюць знішчаную таталітарнай сістэмай годнасць, без якой нельга ў гэтым свеце нармальна жыць і ствараць.

Усе мы—дзеці зямлі-матухны. Без яе няма жыцця. І жыць на ёй нельга адным днём альбо пяцігодкамі. Зямля вечная, але толькі пры адной умове: яе трэба пастаянна любіць і шанаваць. Пра ўсё гэта думаў я, пакідаючы гасцінную сялібу Ніколь і Клода Жамбон.

(Працяг будзе).

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

Валянціна РУДАВА

# ЛЁС НЕ ПА ВЫБАРУ

**Галоўную гераіню маёй аповесці Гэлю напаткала бяда — цяжкая хвароба. І толькі зараз, сагрэтая душэўным цяплом, дабрынёй і спагадай простых людзей, яна па-новаму асэнсоўвае пражытае жыццё, шкадуе, што не бачыла сапраўднай рэчаіснасці, думае аб тым, што трэба жыць інакш...**

**АЎТАР.**

— Ну як тут мае дзевачкі?

Хуткай хадой да Гэлі падыходзіла жанчына яе веку, а мо старэйшая на два-тры гады. Яна здалёк ўсміхалася шчарбатым ротам, добразычліва і прыязна, і, быццам яны былі даўно знаёмыя, шчыра прамовіла:

— Ну, зараз, Гэлечка, трошку прыбяромся, папрыгажэем. — Худзенькая, невялікага расточку, яна падабрала пад белую хусцінку рэдкія валасы і паклала на белы зэдлік каля Гэлінай койкі стос бялізны. — Памяняем прасціны, наўлечкі, чахлы на коўдрах, а заадно і сарочкі. Паглядзіце, якую я вам прынесла, у ружачкі чырвоныя. Муж прыйдзе — не пазнае вас. Ну, ластавачка вы мая, ну, давайце, патрошку павернемся. Вось так, так, цяпер сюды вось адну ручку, ды якая ж яна гладкая, прыгожая, відаць, моцна вас кахае муж, га? — і засмяялася. Смех у яе быў добры, без хітрасці, спагада і чуласць так і жылі разам у гэтай маленькай і худзенькай жанчынцы. — Не гаруй, Гэлечка, прыйдзе час, і яшчэ на танцы пабяжыш са сваім мужыком... а мо і з чужым... Не, усё-такі лепш са сваім, — яна рассмяялася.

— Так, на танцулькі... Але ж усё роўна дзякуй вам.

— За што дзякаваць, мы ж людзі... Галоўнае — вер і трымайся. Па сабе ведаю.

Добрая душа — Макараўна адцягвала Гэлю ад цяжкіх думак, хацела таго санітарка ці не, а прымушала прыглядацца да людзей, якія былі вакол Гэлі ў бальніцы, назіраць за ўсім, што бачыла, каб потым, можа, і скарыстаць гэтыя назіранні ў будучай працы. Праўда, такой акрэсленай думкі ў Гэлі зараз не было, проста яна па ранейшай звычцы пільна прыглядалася да ўсяго.

А Макараўна тым часам і справу сваю рабіла, і гаварыла, імкліва працуючы рукамі, якія так і мільгацелі ў Гэлі перад вачыма.

— Да сэрца толькі не бяры хваробы, ластавачка ты мая. хвароба, яна прыйшла і пойдзе, ты ж застанешся, жыць будзеш, папомніш маё слова. Такія маладыя, як ты, не паміраюць. Жыццё, яно такое, то бяда за бядой, адчыняй адно шырэй дзверы, то раптам адорыць усмешкай, чалавекам сябе адразу адчуеш. І ты, — звярнулася яна раптам да Еўдакіі Карпаўны, якая пільна прыслухоўвалася да размовы, — мужыку свайму каленькай пад адно месца. Божачка, — успляснула Макараўна рукамі, — маеш дзве рукі, дзве нагі, галаву на плячах, а чапляешся за нягодніка, бабніка. На тваім бы месцы я б з ім і дня не жыла. Ты ж лепшая за яго, чаму поўзаеш перад ім!

Еўдакія Карпаўна раптам пачырванела і гнеўна сказала:

— Я з табой свіней не пасвіла. Панятна? І нос свой не суй куды не просяць. Панятна? Бо па саплях атрымаеш. Таксама мне знайшлася дарадчыца! Твая справа — швабрай працаваць. А ты — языком. Мый падлогу — і каціся адсюль.

Макараўна быццам стала менш ростам, уцягнула галаву ў плечы, аднак адказала як мага стрымана:

— Вы дарма мяне так... Я не хацела вас пакрыўдзіць. Проста крыўдна, калі людзі самі сябе зневажаюць.

— Ты шмат сабе дазваляеш, баба. Мне не трэба твая рада. Панятна? Каму якая справа, як я жыву і з кім. Менціш языком абы-што.

Гэля да гэтага часу маўчала, а тут не стрымалася: чаму Макараўну ні за што прыніжаюць.

— Вы дарэмна зазлавалі, — прамовіла яна. — Макараўна сказала, як думала. Я згодна з кожным яе словам: чалавек не павінен дазваляць, каб яго зневажалі. Прабачце.

На гэты раз Еўдакія Карпаўна, падціснуўшы вусны, змоўчала.

Мала каму яна, Макараўна, расказвала, колькі ўсяго-ўсякага выпала на яе нешчаслівую долю: цяжкая аперацыя на страўніку, два месяцы хадзіла, трымаючыся за сцены, але дзеці прымусілі жыць. «Мамачка, —расказвала яна,— як добра, што ты дома. І суп такі смачны варыш, і бульба ў цябе не такая, як у таткі». А татку што! Піў горкую, і дзеці былі яму непатрэбныя.

— Праўду кажуць, што без бацькі дзеці — напалову сіроты, без маці — круглыя, — мабыць, адказваючы сваім думкам, ціха сказала Макараўна.

Гэля міжволі ёю залюбавалася, перастала бачыць непрыгожы шчарбаты рот, рэдкія бясколерныя валасы, якія выбіваліся з-пад белай хусцінкі на вострыя шчэлепы ў сетцы чырванаватых пражылак: сама дабрыня, гэта жанчына, чыё жыццё было саткана амаль з аднаго гора, пераўтварылася, яе прамяністыя вочы ўпрыгожылі да часу састарэлы твар. Гэля на хвіліну забылася, што ляжыць бездапаможная, як ланцугамі прыкутая да бальнічнай койкі, чула прасякнутую цеплатой гаворку, якая заспакойвала, і верыла, што і з ёю так і будзе, як сцвярджала Макараўна, гаворачы і ў той жа час паспяваючы спрытнымі рукамі перасцілаць пасцель, амаль не трывожачы Гэлю.

— Макараўна палітінфармацыю праводзіць, — адчыніўшы дзверы ў палату, сказала доктарка Ала Аляксееўна. Маладая, загарэлая, на высокіх абцасах, яна, аднак, навучылася ступаць мякка і гэтак жа мякка дакранулася да Гэлі. — Гэля Іванаўна, сёння нам дазволілі снедаць.

Следам за доктаркай у дзвярах з'явілася медсястра з падносам, застаўленым рознымі стравамі. Што там было, Гэля ўхапіць вокам не змагла. Але ёй зноў зрабілася страшна.

Ала Аляксееўна, відаць, адчула яе хваляванне, таму што сказала:

— Сёння, спадзяюся, усё ў нас будзе добра. Адам Антонавіч, мой калега, вынайшаў сродак, як без болю і асаблівых непрыемнасцяў увесці зонд. Ды і сам зонд іншы, мяккі і эластычны. Паспрабуем? — Яна сама адсунула койку ад сцяны, зайшла з другога боку і папрасіла: — Вы мне адно трошкі памажыце. Вось так. Волька, хутчэй давайце ўсё, што трэба, не забудзьцеся пра лекі...

Працэдура была скончана, а прайшла яна так хутка і лёгка, што Гэля цяпер упэўнілася — яна папраўіцца. Да таго ж Ала Аляксееўна сказала:

— Лічыце, што вы ўжо на дарозе да жыцця. Вам таксама прынясуць снеданне, — звярнулася яна да Еўдакіі Карпаўны. — Крыху пазней. — Усмешка ў яе была мілая і прыязная, загарэлыя амаль да чорнага рукі спрытна і лёгка рабілі ўсе маніпуляцыі, а кароткая стрыжка светлых валасоў здалася Гэлі арэолам анёла. — Ну, адпачывайце, — сказала доктарка, яшчэ раз міла ўсміхнулася і выйшла з палаты, дзе зноў загаспадарыла Макараўна: мыла падлогу, выцірала мокрай чыстай анучай кафлю і гаварыла-гаварыла:

— Думаеце, мой пакінуў мяне ў спакоі? Прывалокся, ліха на яго, калі дзяцей пагадавала ўжо. — Яна спынілася пасярод вялікай палаты, абаперлася на швабру, з вачэй у яе выкацілася слязіна. — Паглядзела на яго: брудны, зарослы, скура ды косці, лахманы, няўрокам, як на пудзілу, вісяць. Вочы, ну, не раўнуючы, як у таго падзаборнага сабакі. І зайшлося бабіна сэрца, зашчымела, заныла ад жалю: бацька ўсё ж такі маіх дзяцей. Ну і што, прыняла. Думаеце, перамяніўся? Так і мыкаю горачка, то сам прыпаўзе ледзь не на карачках, то я аднекуль прывалаку на сабе.

Гэля зірнула на кволыя плечы Макараўны. Ах, жанчынка ты мая мілая, колькі ж трэба мець дабрыні ў сэрцы, спагады, жалю!

— А сюды прыбягу, — працягвала Макараўна, — думаеце, проста мне глядзець на вашы пакуты? Помню, век не забудуся, як сама вось так ляжала-гаравала...

У асноўным звяртаючыся да Гэлі, Макараўна, аднак, пазірала на другую хворую, мабыць, шкадуючы яе, не адчуваючы крыўды. Яна шаравала падлогу, і твар у яе быў задуменна-сцішаны, быццам яна зараз думала пра нешта запаветнае і дужа ёй прыемнае. Так і аказалася.

— Віцька, унучак мой шасцігадовы, кожны дзень сустракае мяне з работы. Спаць не ляжа, пакуль не прыйду дахаты. Аднойчы з начной змены вяртаюся, непадалёк ад хаты сваёй бачу: нейкі калабок да мяне коціцца. Спачатку спужалася, а як прыгледзелася, дык гэта ж ён, Віцька. А ноччу прыцісне́цца, бывае, да мяне, абхопіць ручаняткамі за шыю і шэпча ў самае вуха: «Бабулечка мая, жыць без цябе не магу». Як дарослы ўсё роўна.

Па-рознаму і неаднолькава людзі чэрпаюць у жыцці дабрыню. Для Макараўны такой невычэрпнай крыніцай стаў яе ўнук.

«А для мяне, — падумала Гэля, — Жэнька, мая Жэнечка. Без яе як малой будзе, мама ёй патрэбна больш як хто іншы... Крывіначка мая родная, табе ж таксама трэба і супчык зварыць, і плацейка памыць, і прылашчыць...»

Думкі пра дачку аднеслі Гэлю далёка ад бальнічных сцен, ад спецыфічнага паху хлоркі і яшчэ нейкіх лекаў, да чаго паспела ўжо прывыкнуць. І нават ад Макараўны, што працавала са швабрай з такой энергіяй, быццам змагалася з чорнымі сіламі, а не проста мыла і без таго чыстую падлогу, пакрытую пластыкам, яна аж адбівала сонечных зайчыкаў. Гэля кожнай клетачкай сваёй змарнелай ад болю душы была зараз там, з Жэнькай, ляжала з заплюшчанымі вачыма. І толькі калі санітарка — зноўтакі ў сувязі з Жэнькай — сказала нейкія словы, не адразу ўспрынятыя ёю, назваўшы дачку па імені, яна толькі тады спахапілася:

— Што вы сказалі?

— Ох, Гэлечка! Не ты першая, не ты апошняя. Колькі вось гэтымі рукамі я памагала не такім, як ты, не дай Бог, якія цяжкахворыя, а праз пятнаццаць — дваццаць дзён памалу пачыналі хадзіць. Пры гэтай хваробе важна зрабіць першы крок. А там пойдзе як па-пісанаму. Пацярпі.

— Колькі, Макараўна?

— Хто ведае. Можа, тыдні два, а то, глядзі, і месяц. У каго як.

У Гэліну галаву запала: два тыдні.

І Гэля прынялася чакаць, думаць, упэўніваць сябе, што праз два тыдні паднімецца.

Тым часам суседцы прынеслі снеданне — трошкі тварагу са смятанай, манную кашу з кавалкам батона і квадрацікам масла да чаю. Сястра, якая прынесла ежу, паставіла паднос на тумбачку каля койкі, пасля нахілілася да Еўдакіі Карпаўны, што, відаць, задрамала ў палатнай цішыні.

— Я пакармлю вас,— сказала сястра і падсунула абедзве рукі пад падушку, каб прыўзняць галаву хворай. — Зараз паядзім, чаю пап'ём, а тады і паспаць не грэх.

Еўдакія Карпаўна скасавурыла вокам на паднос, нядобра ўсміхнулася.

— Чым мяне будзеш карміць? Вось гэтым? Пакліч дзяжурнага доктара. І хутка. Адна нага тут, другая там.

— Доктар тут ні пры чым, — мякка запярэчыла сястра. — Усім пасляаперацыйным... Калі ласка, я вас вельмі прашу паесці. Мне яшчэ іншых хворых... Хоць трошкі. Я вас вельмі прашу. Чакаюць жа мяне.

— Пачакаюць. Пакліч доктара, сказана. Такой поскудзі я сваім сабакам не даю. Снеданне яна мне прынесла!.. Забяры гэту гадасць. І не прыставай як смала. Усё. Скончана размова. Ідзі, рабі, што загадана.

Узяўшы паднос з ежай, сястра выйшла з палаты.

— Дарэмна вы на яе,— з дакорам сказала Гэля.— Тут усе хворыя ў аднолькавым становішчы. Я з задавальненнем бы з'ела ваш сняданак. Да дробачкі. Не ўяўляеце, як хочацца самой чаго-небудзь пажаваць.

Еўдакія Карпаўна, пачырванеўшы ад гневу, як адрэзала:

— Я — не ўсе. Панятна? У нас ураўнілаўкі няма.— Не з такой жорсткасцю працягвала: — Дома ў мяне два сабакі. Як дзеці яны для мяне. Дык я ім і мясца, і бульбачкі, і яшчэ ўсякага ўсяго. А тут манькіна каша. Зроду яе ў рот не брала. Нічога, муж прыйдзе, дасць ім усім прыкурыць. Абхамелі тут. Не, я гэтага так не пакіну. Не. Прыйдзе муж...

Суседка змоўкла, пакрысе сцішылася, супакоілася, мабыць, заснула. Гэлю ж сон не браў. Думалася, што хвароба слаба паддаецца лячэнню: спаралізавала глытанне. Сама яна ўсё добра разумела, не было падстаў марыць пра хуткае выздараўленне, зонд — гэта надоўга, значыць, пакутлівая працэдура тройчы на дні, сёння, заўтра, праз тыдзень, кашляць, задыхацца, душачыся праклятым гумавым шлангам, значыць, пакутлівае знясілле.

«А Жэнька? Як з Жэнькай?— не адступалася, мучыла думка. — Без мяне ёй дужа кепска, маленькай».

Пра Соню і Паўла думала менш. Яны — дарослыя, самі сябе дагледзяць. Тое, што так хвалявала да хваробы, што Павел не разведзены, цяпер адсунулася некуды далёка. Якое гэта зараз мае значэнне? Стаць бы зноў здаровай! Яна нават не спыталася ў Паўла, з чым ён вярнуўся са свайго Запарожжа, ці нарэшце развёўся, дзе будзе жыць яго сын, які ведаў пра яе, Гэлю, маленькую Жэньку, сваю сястрычку, не асуджаў бацьку, нават напісаў Жэньцы некалькі лістоў.

Вельмі даймала Гэлю хвароба. Яна зноў унурвалася, рабілася безуважная, абыякавая да ўсяго. Ляжала ўвесь час з заплюшчанымі вачыма, адно думала пра Жэньку, уяўляла яе самоту.

На ўмовы Гэля паскардзіцца не магла, удзвюх у палаце, ціха, чыста, кожную раніцу мянялі бялізну, была ў тым патрэба ці не. Паступова яна пачала трохі спаць, канешне, дапамагалі ўколы, але хоць на кароткія гадзіны праваьвалася ў цяжкое мроіва сноў. Калі прачыналася, то не адчувала бадзёрасці, бо сны былі па-ранейшаму змрочныя і бязрадасныя. То яна боўтаецца і ніяк не можа выбрацца з нейкай каламутнай вады, то даганяе і не можа дагнаць цягнік, на якім паехалі Жэнька і Павел, паехалі без яе, паехалі да мора, у Піцунду, куды яны збіраліся разам у жніўні, а ў ліпені яна пачала свой «адпачынак» у бальніцы. Нездарма кажуць: чалавек думае, Бог робіць. Каб не гэты рамонт, які, так яна хацела, распачаў Павел! І яна пасля работы на злом галавы неслася дахаты, каб мыць, выносіць смецце, прыбіраць, чысціць, рыхтаваць кватэру да заўтрашніх работ майстроў. Каб не гэты рамонт! А можа, і зусім не рамонт таму прычына, проста выпрацавалася яна раней часу, нездарма многія калегі смяяліся з яе, маўляў, ордэн атрымаць хочаш, усё роўна не заўважаць. Падумаеш, сядзіць вечна над рукапісам, галавы нават не падніме, калі дзверы адчыніш. Да вас, маўляў, у пакой, калі ты там, і заходзіць не хочацца. Ну і на здароўечка! — адказвала яна, таму што любіла цішу і спакой, любіла працаваць адна.

Выкладвалася? Так. Але мела ад таго асаблівую асалоду. Не разумела калег, якія швэндаліся па пакоях, там расказаць анекдот, там пачуць плётку. І што самае дзіўнае — яны, гэтак жа, як і яна, выконвалі план, атрымлівалі прагрэсіўку і трынаццатую зарплату. І былі вольныя. Яна ж заўсёды была занятая. Ужо ідучы на работу, планавала, што стане рабіць, і, як правіла, план быў максімальны.

Іншага жыцця для сябе не хацела. Выпрацавалася? Ну і няхай. Лепш жыць на поўную сілу, чым цярпець з раніцы да вечара, што рабіць нечага. Яна раптам пасмяялася з сябе: «Іншага жыцця не хочаш!» А ці ты ведаеш сапраўднае жыццё? Ты зарабляеш не вельмі многа. Каб не Паўлава зарплата, ты на свае рэдактарскія грошы не надта параскашуеш. Вось так. А што гаварыць пра такіх, як Макараўна? Яна ж, бедная жанчынка, як тая рыба б'ецца аб крыгі.

Набліжалася ноч. Яе Гэля баялася больш за ўсё. Ноччу бальніца поўнілася трывожным, нейкім мёртвым святлом, у адкрытыя дзверы палаты чуваць былі шамаценне, нечыя стогны, нехта клікаў сястру ці санітарку, у неспакойным сне нешта мармытаў несусветнае. Да гэтых гукаў болю немагчыма было прывыкнуць, яны адбіралі апошнія сілы, рабілася вусцішна. А тут яшчэ суседка храпла ды стагнала.

— Не магу спаць, — паскардзілася Гэля Макараўне, якая прысела да яе на койку. — Ніяк не магу прывыкнуць.

— Ластавачка ты мая мілая, — абазвалася жанчынка, шкадуючы Гэлю, і паправіла коўдру, якая скамячылася у Гэліных нагах. — Шчыра табе спачуваю, сама цяжка хварэла, у бальніцы таксама спаць не магла. А вось зараз паваліласяб на падлогу і спала да наступнага вечара. — Яна ўсміхнулася, мабыць, нешта прыгадала. — Але ж не гнявi Бога, мая ты дзевачка, табе яшчэ пашанцавала. Так, так, не ўсміхайся іранічна.

— Ці ж мне да ўсмешак, — паныла прамовіла Гэля.

— Ты, лічы, яшчэ шчаслівая, Гэлечка родненькая. Не дай Бог, трапіла б у іншую бальніцу, дык хто ведае, ці размаўлялі б мы з табой зараз. Табе надта пашанцавала, — паўтарыла Макараўна. — Тут цябе паднімуць на ногі. Іна Сямёнаўна — і чалавек добры, і доктар цудоўны. Мала цяпер такіх, — Макараўна ўздыхнула.

— Доктар павінен быць добры, — слабым голасам абазвалася Гэля.

— Не скажы. Я ўсялякіх нагледзелася. Добрых мала бачыла. — Яна сумна ўсміхнулася шчарбатым ротам. Памаўчала, быццам думала, ці гаварыць яшчэ. Потым адважылася і сказала. — Не ўсе дактары аднолькавыя, Гэлечка. Такіх, як Іна Сямёнаўна, тут чалавек пяць усяго. Хто тут працуе?

— Кожны па свайму профілю, — не зразумеўшы пытання, адказала Гэля. — Адным словам, дактары.

— Блатнякі! Вось хто! Па блату большасць. Таму што тут зарплата вялікая, і ўмовы, і лекі якія хочаш. Жонкі начальнікаў вялікіх, іхнія знаёмыя. Не кожнага бяруць. Санітаркай — калі ласка. Медсястру — сюды-туды. А наконт дактароў — дык сляпога за павадыра не пашлеш. Тут і бальніца называецца не па-людску — Камісія. І хворыя асаблівыя — адказныя, персанальныя, вялікае начальства і іхнія падлабузнікі. Чаму, ты думаеш, цябе сюды прыняць не хацелі, хоць, праўду кажучы, ты ўжо адной нагой была на могілках. Чаму? Не ведаеш? А я ведаю. Таму, што бяруць тых, хто замацаваны да гэтай Камісіі. Простаму чалавеку сюды не трапіць. Хоць памірай, не возьмуць.

Макараўна, расхвалявaўшыся, узялася расказваць пра Трэцюю бальніцу, дзе сама ляжала. Дык там у палатах няма чым дыхаць, па пятнаццаць — дваццаць чалавек. Кормяць хворых там, як дрэнны гаспадар сабаку ў будцы. А бялізна? Замытая да жаўцізны, падраная. Тут рай у параўнанні з Трэцяй.

Гэля, як ні было ёй дрэнна, уважліва слухала. Заўсёды добразычлівая, шчырая і спакойная, Макараўна зараз пераўтварылася. Яе дробненькі твар узяўся чырвонымі плямамі ад гневу і болю. Седзячы на краёчку Гэлінай койкі, паклаўшы на каленькі худыя рукі з вялікімі, не жаночымі, пакрытымі сінімі венамі далонямі — яна ўвасабляла само гора. І Гэля міжволі падумала: «Якую ж душу трэба мець, каб не стаць жорсткай ад жыцця, поўнага нястач, крыўды, і яшчэ знаходзіць у сабе дабрыню, каб аддаваць яе такім, як яна, цяжкахворым людзям!»

— Ну, спі, мая ты дзевачка, спі, галубка. Пайду і я, прыдрамну якую гадзінку, пакуль ціха.

Муж Еўдакіі Карпаўны прыехаў толькі на трэці дзень. Напярэдадні ў рэанімацыі па чарзе з'яўляліся галоўны ўрач, яго намеснік, пільна аглядаючы палату, ці чыста ў ёй. Палата зіхацела асаблівым бляскам, які ў нас прынята наводзіць для высокага начальства. Адносіны да Еўдакіі Карпаўны былі падкрэслена ўважлівыя — сам галоўны ўрач пытаўся, чаго б ёй хацелася з'есці, ці не жадае яна баржома.

— Абыдуся, — падціснуўшы вусны, як адрэзала хворая. Шматзначна паабяцала: — Муж вам скажа, чаго я жадаю.

— Я хачу, як найлепш для вас, — не сунімаўся галоўны ўрач.

— Ведаем, ведаем, чаго хочаце, — груба, са здзекам адказвала хворая. — Забегалі! Ну-ну, бегайце. — Яна пачакала, пакуль дактары пайшлі.— Бачыла? — звярнулася яна да Гэлі. — На паўсагнутых выкамарваюць. Ці ж тое яшчэ будзе. Прыйдзе мой князь, ён ім перцу пад хвост падсыпле.

«Князь» аб'явіўся перад абедам у суправаджэнні цэлай світы ў белых халатах, падышоў да жончынай койкі.

— Ну, дабрыдзень. Як ты тут?

— Мог раней прыйсці.

— Не мог. Камандзіроўка.

— Ведаю твае камандзіроўкі. Трэці дзень пакутую ў гэтым хляве, не ем, не сплю. Табе ж усё роўна.

Позірк яго шэрых халодных вачэй затрымаўся на чырвоным ад хвалявання жончыным твары. Яна быццам скурчылася, пацягнула коўдру пад бараду.

Галоўны ўрач, мажны, гадоў пад шэсцьдзесят, чалавек, «еў» вачыма начальства, і калі яно павярнулася да яго, незнарок скінуўшы на падлогу неахайна надзеты на плечы халат, з зайздросным спрытам падняў яго, яўна намерваючыся асабіста надзець яго на «князевы» плечы.

— Не трэба, — сказала начальства, застаўшыся ў шыкоўным, пашытым па яго гладкай постаці сінім касцюме. — Ну, дык як жыць будзем, доктар? — спытаў ён, гледзячы за акно, пад якім стаяла чорная «Волга».

— Вас зразумеў, Захар Пятровіч. Сёння ж перавядзём вашу жонку ў асобную палату. І наконт харчавання — таксама.

— Глыбока правільная думка, — важна сказаў Захар Пятровіч? Мне заўтра наведацца ў якую палату?

— У адзінаццатую, Захар Пятровіч. Зараз жа перавядзіце адтуль Кунцэвіча,—аддаў галоўны ўрач загад свайму намесніку, які стаяў поруч.

— Так, але...

— Я ўсё сказаў, — уладна перабіў галоўны ўрач. І павярнуўся да Захара Пятровіча, — Там у нас ляжыць пасля ампутацыі нагі ветэран... — не дагаварыў пад халодным позіркам начальства.

— Гэта вашы праблемы, — сказаў Захар Пятровіч і, памахаўшы рукою жонцы, выйшаў з палаты.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# КУДЫ Ж БЕЛАРУСУ ПАДАЦЦА?!

Часопіс «Вясёлка» мне выпісалі бацькі. Выпісвалі мы яго сыну. Ужо каторы год падпісваем для дачкі. Пацягнула неяк перагартаць старыя нумары і раптам у жнівеньскай за 1991 год «Вясёлцы» прачытаў такое, што весяліцца неяк стала не з рукі. На перадапошняй старонцы чытаю: «Касцёл — польскі каталіцкі храм». Вось табе і маеш. А наша грамадскасць некуды пнецца, даводзіць ледзьве не цэламу свету, што і беларусы людзьмі хочуць звацца.

Але ж з якой крыніцы здабыло дзіця, шукаючы адказ на пытанне часопіса, такія адмысловыя веды? Доўга корпацца на кніжнай паліцы не давялося: Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978. Т. 2. С. 659. І зноў «рука Варшавы», няйначай. Гартаю першае, што трапляецца пад рукі: Малы словнік тэрмінув пластычных, падрыхтаваны Крыстынай Зволіньскай і Заславам Маліцкім (Варшава, 1974), ні на каліва не намякае на этнічную прыналежнасць сакральнага збудавання. У выданні вытлумачана, што касцёл з'яўляецца святыняй хрысціянскай рымска-каталіцкага абраду. Далей падаюцца звесткі пра некаторыя архітэктурныя асаблівасці касцёлаў, пра іх класіфікацыю.

На сумныя думкі навялі гэтыя некалькі слоў у «Вясёлцы», спісаныя з фундаментальнага акадэмічнага выдання. Прыгадваецца, што некалькі гадоў таму назад яго нават рэкамендавалі на дзяржаўную прэмію.

Сёння аціхлі дыскусіі вакол Тлумачальнага слоўніка. Хаця па-ранейшаму і застаецца ён настольнай кнігай у многіх рэдактараў беларускіх выдавецтваў, але ўжо не такімі палкімі бываюць спрэчкі за ўжыванне нейкага адметнага беларускага слова ў тэксце. Але, як і даўней, нехлямяжасць беларускай натуры выяўляецца аж з коптурам. На ўстановах з'яўляюцца новыя шыльды: абавязкова двухмоўныя. Зразумела, на беларускай і рускай мовах. Ды гэта, можа, і паўбяды, часцей на беларускую мову некаторыя службоўцы проста забываюцца.

Колькі стрэлаў было зроблена ў бок Дзяржтэлерадыё Беларусі. І сёння для «Уліса», «Мроі», «Мясцовага часу», «Новага неба» (усіх і не пералічыш) тэлерадыёэфір закрыты. Затое з дня ў дзень ганяюцца па беларускіх хвалях і Маша Распуціна, і Ігар Талькоў, і мноства іншых далёка не адметных расійскіх спевакоў. Інакай і быць не можа. Сам жа спадар Сталяроў на ўвесь былы Саюз божыцца, што без «цэнтральнага» тэлебачання Беларусі ніяк не пражыць. На сваё тэлебачанне, па словах спадара старшыні, грошай не хапае. А маскоўскія праграмы рэспубліка гатова фінансаваць па поўніцы.

Але не толькі ў эфіры выяўляецца нехлямяжасць беларускай натуры. Ці не штораніцы даецца рэклама дзейнасці студыі «Сябры». Раней гэтак жа часта рэкламавалі дзейнасць арганізацыі «Мінскканцэрт». І зноў жа: ні аднаго беларускага выканаўцы. Толькі і чуваць Жэні, Сашы, Машы. Няма на Беларусі ні талентаў, ні пасрэднасцяў. Няма, хоць трэсні.

Зрэшты, адкуль брацца беларускасці на Беларусі? Падручнікі старыя, праграмы амаль нязменныя. Ці кожны настаўнік здолее пакорпацца ў спецыяльнай літаратуры, якой, да таго ж, з-за мізэрнасці тыражоў і не знойдзеш? Беларусь як бы і не мае таленавітых мастакоў, здатных намаляваць кніжкі-коміксы пра слаўнае беларускае рыцарства, пра наша гераічнае мінулае, пра дзейнасць адметных асобаў нашае зямлі. Відаць, не толькі супрацоўнікі выдавецтваў вінаватыя, што не прыносяць ім аўтары матэрыялы, заснаваныя на яркіх гістарычных прыкладах.

З чаго ж тады ўзяцца ў дзіцяці ведам пра дзейнасць сваіх продкаў? Таму і здатнае яно спісаць з «саліднай» акадэмічнай кнігі, папросту кажучы, лухту. Ды й «Вясёлка», як бачым, не парупілася за вартасць зместу сваіх старонак. Так і песціцца наша нехлямяжасць на старонках часопісаў, на радыё ды тэлебачанні, у выдавецтвах. Паўсюдна. Замкнёнае кола.

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ.**

# ПАТРЭБЕН ЗАКОН

Мяне дужа ўсхвалявалі матэрыялы канферэнцыі ТБМ пад назвай «Як жывеш, Беларусь?» («ЛіМ» за 29 мая г. г.). Я добра разумею патрыёта беларускасці настаўніка з Гудзевіч Алеся Белакоза, яго намаганні ў абарону беларускай мовы.

Не толькі на Гарадзеншчыне праяўляецца засілле польскасці. Такое ж робіцца і ў нас, у Нясвіжы. Тут поўным ходам ідзе навучанне дзяцей польскай мове. Набажэнства ў касцёле вядзецца пераважна на польскай і рускай мовах. Я неаднаразова гутарыў з мясцовым ксяндзом Г. Акаладовічам аб лёсе беларускай мовы. Насіў яму на прачытанне артыкулы з «ЛіМа» пра тых святароў, якія заслужылі добрую славу ў народзе за тое, што маліліся на беларускай мове. Прасіў я ксяндза карыстацца беларускай мовай, якой ён выдатна валодае, тым больш, што мясцовыя парафіяне ў штодзённым жыцці размаўляюць па-беларуску. Але ксёндз не хоча. Усяго толькі на каталіцкі Вялікдзень ён зачытаў пасланне архібіскупа Казіміра Свёнтака, складзенае вышэйшай духоўнай асобай пабеларуску.

Відаць, сапраўды патрэбен закон, які б абавязваў святароў карыстацца ў касцёлах Беларусі мовай гэтай жа рэспублікі.

Таму я цалкам падтрымліваю патрабаванні пастановы канферэнцыі ТБМ. І не прасіць трэба кіруючых чыноўнікаў, а патрабаваць. Бо яны — чыноўнікі. А мы — народ.

**М. ВАЛЬКО.**

г. Нясвіж.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# Ёсць у Лідзе «Фестываль»

Два гады існуе ў Лідзе ансамбль «Фестываль». Ён ужо не толькі набыў папулярнасць на радзіме, але і стаў дыпламантам міжнародных фестываляў акардэоннай музыкі, шмат гастралюе. Ансамблем кіруе выкладчык Лідскага музычнага вучылішча акардэаніст Уладзімір Бубен. Неаднаразова канцэртаваў «Фестываль» у Беластоку. А сёлета атрымаў запрашэнне выступіць у лайф-канцэрце (у «жывым» эфіры мясцовага радыё). Апроч падтрымкі публікі, якая была ў студыі ў час канцэрта (а гэта каля 200 чалавек), музыканты адчулі ўдзячнасць слухачоў, якія тэлефанавалі на радыё пасля перадачы. Назаўтра эстрадныя, танцавальныя п'есы, апрацоўкі народных песень гучалі ў выкананні лідскіх музыкантаў у адным з лепшых рэстаранаў Беластока, куды быў запрошаны «Фестываль». Там ён зладзіў дабрачынны канцэрт у фонд таварыства «Дзеці ў бядзе» (яно аб'ядноўвае бацькоў тых дзяцей, якія хварэюць на анкалагічныя хваробы ў выніку чарнобыльскіх наступстваў). Зробленыя 800 тысяч злотых ужо размеркаваны паміж бацькамі хворых дзяцей. Ліпеньскія гастролі «Фестывалю» пройдуць у Германіі.

**В. Р.**

# Добрай памяці Галіны Фурсевіч

Не стала Галіны Фурсевіч. Усе, хто займаўся культурна-асветнай работай, нястомнай прапагандай беларускай культуры, беларусізацыяй, пачынаючы з дзіцячага садка, страцілі нястомнага працаўніка, апантанага энтузіяста, сапраўднага майстра - арганізатара на ніве выхавання грамадзян, патрыётаў, гуманістаў. Трагічнае імгненне застала Галіну Паўлаўну на аўтобусным прыпынку па дарозе ў Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей, дзе яна займалася міласэрнай місіяй з дзеткамі, якія ў шматлікіх сірочых інтэрнатах ладзяць вялікае мерапрыемства пад незабыўнай назвай «Мой родны кут». За трыццаць шэсць гадоў жыцця Галіна Фурсевіч запомнілася як умелы метадыст аматарскай музычнай творчасці Беларусі ў сістэме Белсаўпрофа і Міністэрства адукацыі, дзе яна, як галоўны мастацкі кіраўнік, намеснік генеральнага дырэктара, узначальвала і каардынавала работу эксперыментальных аб'яднанняў «Беларускі фальклор», «Музычна - харэаграфічнае», «Калядна-абрадавае» і «Дзіцячая філармонія» Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання.

Дзіцячыя аматарскія студыі, з якімі нястомна працавала Галіна Паўлаўна, апошнім часам даносілі мілагучнае беларускае слова да берагоў Волгі і Рэйна, да братоў з Беласточчыны і Санкт-Пецярбурга, аздаблялі нацыянальныя святы ў сталіцы, прапаведвалі шчырасць і хараство па радыё і з экрана. Каля трох тысяч дзяцей вось ужо два гады аб'яднаны ідэяй далучэння да традыцый прафесійнай, народнай і аматарскай творчасці праз усе жанры беларускага мастацтва. І роля Галіны Паўлаўны ў гэтай высакароднай справе была і застанецца незаменнай. І незабыўнай, — як і яе шчырасць, давер, энергія, сапраўдная чалавечая прыгажосць.

**А. САБАЛЕЎСКІ, М. КРУКОЎСКІ, У. ІСКРЫК, В. МАСЛЮК, І. МІСЬКО, А. УСЦІНАВА, М. ВЯЧЭРСКІ, У. ГУСАРАЎ, Л. РЫЖКОВА, Т. ГАРОБЧАНКА, Р. БАРАВІК, Г. МАРЧУК, А. ЧЫРКУН, Я. ЛІС, М. ЖАБІНСКАЯ.**

Калектыў рэдакцыі часопіса «Маладосць» з глыбокім жалем паведамляе аб заўчаснай смерці загадчыка аддзела, члена рэдкалегіі часопіса, вядомага фотамайстра і публіцыста **ЖДАНОВІЧА** Валянціна Ісакавіча і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.

Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе ў сувязі са смерцю фотакарэспандэнта часопіса «Маладосць» **В. І. ЖДАНОВІЧА** і выказвае спачуванне родным нябожчыка.

**АВОХЦІ МНЕ!**

# КАНЕЦ ПЕРАБУДОВЫ

**Калі з тэлевізараў знік М. С. Гарбачоў са сваімі клятвамі і доўгімі прамовамі, мы пачалі думаць самі. Паглядзіш збоку ці знізу на нашу рэчаіснасць—нічога быццам бы не змянілася. Але ж і часу пакуль прайшло мала. Паспрабуй перакруціць, што нарабілася за 73 гады! Напачатак ведаць бы, што і як перарабляць. Ды неяк сумна, што ўчора рабілі адно, а сёння трэба—наадварот. Можа, зробім гэта гумарам! Ад яго пакуль яшчэ ніхто не памёр, а лягчэй усім.**

## МЕТАМАРФОЗЫ

Канец змены на машынабудаўнічым заводзе. Людзі з прахадной сыплюцца, як бульба з капалкі. Пры дарозе, недалёка ад прахадной, сядзіць чысцільшчык абутку. Перад ім раскладны ўслончык і расчыненая скрынка з драўляным следам нагі. У другой палове скрынкі — вакса, шчоткі, суконкі і шнуркі. Рукі ў чысцільшчыка белыя, не запэцканыя ваксай. Пазногці таксама коратка пастрыжаныя. Відаць, з інтэлігентаў. Ахвотнікаў чысціць чаравікі—мала. За гадзіну ён абслужыў толькі двух, узяўшы з кожнага па дзесяць рублёў. Можа, збавіць цану? Нячышчаных чаравікаў міма яго прайшло шмат. Мабыць, няма лішніх грошай. Прыгледзеўся да прычосак. Пастрыжаны, не тое што ў Акадэміі навук.

На раскладны ўслончык сядае мужчына сярэдняга ўзросту і сяржанцкім голасам загадвае: «Асвяжыць!» Чысцільшчык, не падымаючы галавы, старанна сцірае пыл, мяняе шчотку, размазвае па чаравіку ваксу, зноў мяняе шчотку, даводзіць да бляску чаравік і, нарэшце, глянцуе дадатковай суконкай. Тое самае робіць і з другім чаравікам. Кліент устае задаволены. «Чырыка, мяркую, хопіць?» — зноў гаворыць ён сяржанцкім голасам. Чысцільшчык падымае галаву і ціха адказвае: «Нічога не трэба, Жэня». Кліент трохі збянтэжыўся. Углядаецца ў твар чысцільшчыка і пазнае яго. «А, вучоны... Я табе казаў, не сушы мазгі. Я вось скончыў вучылішча і працую брыгадзірам, кожны месяц маю шэсць тысяч. Што за карысць з твайго медаля, дыплома і вучонай ступені? Дзяржава цябе не прызнае. Лічнасцю захацеў стаць? Там іх хапае без цябе і на гэта не трэба столькі вучыцца. Трэба блат. Скажу ў дзярэўні — не паверaць. Можа, яшчэ і не жаніўся?» — «Ужо нават дачка ёсць, тры гадкі, дзеля яе і выйшаў». — «Ну, гэта добра, што робіш. А чаму вы на плошчу не ішлі, як разганялі акадэмію? Чаму кожны толькі за сябе? Пабаяліся? Мы ж пайшлі. У нас цяпер так, братка ты мой». Ён хавае ў кішэню чырвонец: «Не нада, дак не нада». Адыходзячы, паварочвае галаву да чысцільшчыка і зноў сяржанцкім голасам дадае: «Пака! Нада акціўней. Запрашай людзей. Не сядзі ціха».

Чысцільшчык паглядае на новых кліентаў. Каб яшчэ пара чалавек, можна было б на сёння канчаць. Усё-такі красавік, халадна сядзець. Думкі самі сабой лезуць у галаву. Не змагаліся за сябе. А за што змагаліся, за навуку? Дык яе ў нас няма. На ўцеху прыходзіць традыцыйнае беларускае: ат, нешта будзе. У Японіі вунь не назначаюць міністрам, пакуль не пабыў грузчыкам ці чысцільшчыкам чаравікаў.

Падыходзіць чарговы кліент. Пажадаем поспеху кандыдату хімічных навук. За тыдзень ён з нечага паспеў зварыць сваю ваксу, якая дае асаблівы бляск.

## КАМАНДЗІРОЎКА

Яшчэ Ніцшэ даказваў, што навука разбурае мараль. Значыць, у навуковых установах яе будзе менш за ўсё. Прыпомніў я гэта ў час камандзіроўкі ў Львоў. Едзем з калегам цягніком, як некалі, усё спакойна. Ноччу пераехалі граніцу, раніцай у Львове. Уладкаваліся ў гатэль. Трохі дарагавата, але ж і нам дабавілі сутачных.

Пайшлі ў інстытут, на завод, у горад. Зрабілі справы і зноў прыйшлі ў гатэль. Купілі хлеба і мінералкі. Цукар, цыбуля і капуста ў мяне былі свае, з дому. Больш нічога. Выстаяў у Мінску за ліверам, але ж не браць яго на тыдзень з сабою — яшчэ атруцішся. Вылажыў я ўсё, што было, з партфеля, схадзіў да дзяжурнай кіпню. Калега мой надта хударлявы. Іду і думаю: трэба прапанаваць яму ўладкавацца на час камандзіроўкі да якой-небудзь удавіцы, бо прападзе. Прыходжу. Калега сядзіць за сталом і лагодна так усміхаецца: «Не прападзём». На стале ляжыць ладны брус сала. Ён ужо паспеў адрэзаць некалькі шматкоў, накроіў хлеба, абчысціў мае дзве цыбуліны. Пачалі вячэраць. Сала было надта смачнае. Мо таму, што даўно яго не еў. А, можа, дзейнічала мінеральная вада? Цыкл гэты паўтарыўся і заўтра, і паслязаўтра. Сала было ўжо нямнога. Па дарозе ў гатэль я пераканаў немаладога ўжо калегу, што есці цыбулю вельмі карысна, калі хочаш набыць мужчынскую сілу. Перад гэтым ён неяк з горыччу паскардзіўся, што не заўсёды можа апраўдаць надзеі тых жанчын, з якімі працуе побач. Я зразумеў, што гаворка ідзе пра падначаленых. Ну чакай жа, кот марцовы! Я табе дапамагу! І параіў яму есці цыбулю з соллю. У абед калега піў гарбату і грыз цыбулю, як морkву. Да сала амаль не дакрануўся. Затое я шчыраваў як след.

Назаўтра мы ад'язджалі ў Мінск. Калега амаль праз слёзы паскардзіўся, што ўжо болей не можа глядзець на цыбулю, што яго пакідаюць сілы. Я зварыў два яйкі, выменяные за абмылак на рынку, і загадаў яму з'есці: яшчэ дойдзе, бедалага. У поезд мы сядалі шчаслівыя — як-небудзь даедзем...

У Мінску калегу я сустрэў праз некалькі дзён. Ён паглядзеў на мяне калючым позіркам і нічога не адказаў на маё прывітанне. Я здагадаўся, што зрабіў нешта не так. Можа, тая цыбуля пашкодзіла, а не дапамагла? А, можа, атрымаў гастрыт? Не, пэўна, не выйшла з жанчынамі. А калі так, то і добра. Не дамагайся чужых жонак, якія службова табе падпарадкоўваюцца. Тым больш цяпер, калі яны ў бязвыходным становішчы. А то ўзялі за моду — хачу скарачу, хачу —раскарачу. Паназначалі іх яшчэ пры пяцізоркавым лідэры, а цяпер людзі пакутуюць. Чорт цябе і такіх, як ты, не возьме! А жанчынам трэба неяк дапамагаць. Можа, які камітэт стварыць ці што? Трэба падумаць і пра камандзіровачных, каб не галадалі з-за нядбайства нашых чыноўнікаў. Можна ж закупіць і абменьваць тыя купоны, ці грошы, без якіх у суверэнных рэспубліках мы адчуваем сябе, як чарвяк на асфальце.

## ПРАФЕСАР

Сустрэліся мы ў лесе за Плешчаніцамі падчас палявання. З раніцы сабакі паднялі гурт дзікоў і пагналі на чужую тэрыторыю. Мясцовыя хлопцы завярнулі сабак. Тыя з гарачкі ўчапіліся за беляка і пачалі ганяць сярод нас. Хвілін праз пятнаццаць ён ужо дрыгаў у руках вясковага дзядзькі. Той не палічыў гэта за гонар, а прабурчаў, што займаемся не тым, чым трэба: прыйшлі на дзікоў, а ганяем белякоў! Хвілін праз дзесяць сабакі паднялі новага беляка. Але заяц быў не промах. Ён хадзіў кароткімі кругамі паміж шасцю паляўнічымі і не пападаўся. Вясковыя хлопцы сабраліся і разам з дзядзькам пайшлі шукаць новых дзікоў. Мы з доктарам вырашылі пастаяць. Беляку абрыдла ўцякаць ад сабак і абыходзіць людзей. Ён, мусіць, знарок пачаў паказвацца ім на вочы. Тыя збіліся ў кучу і блыталіся ў гушчары сярод вываратняў і наваленага галля з апошніх сіл. Доктар — тонкі псіхолаг, сказаў, што, мабыць, гэты хітрун ловіць нашы біятокі, а сабак чуе вушамі, мясцовасць ён ведае дасканала — вось і выкручваецца. Акрамя таго, яго ўжо не раз стралялі, бо добра адчувае небяспечную адлегласць. «Можа, пакінем яго ў спакоі?» — пытае доктар. Я згадзіўся. Але ж сабакам не загадаеш.

У гэты час вясковыя хлопцы затрубілі збор. Значыцца, знойдзены новыя сляды. Мы ўжо наважыліся ісці да іх, як з'явіўся Вася. За браканьерства ў яго забралі стрэльбу і білет. хадзіў ён толькі з сабакамі пры іншых: сабакі ішлі за ім, як за гаспадаром. Ды, трэба сказаць, смелы быў. Ганяць дзікоў з пустымі рукамі не кожны адважыцца. Калі там ёсць паранены самец, то не паздаровіцца. А Вася ганяў. Апранаўся ён абы-як. Гэтым разам ватоўка была надзета проста на зялёную саколку і нават не зашпілена да канца, латаныя джынсы падпяразаны шырокай папругай і запраўлены ў кірзавыя боты, на галаве — злінялая трусіная шапка. Калі да гэтага дадаць шчаціну на азызлым твары, даўно нястрыжаныя валасы і жаданне выпіць у любы час, вы атрымаеце поўны партрэт.

Мы не гаварылі яму пра хітрага беляка, ён ведаў усё сам і пачаў прасіць стрэльбу: «Дайце на дзесяць хвілін і я яго прынясу». Стала шкада яго. Доктар даў стрэльбу з адным патронам. Прайшло дзесяць хвілін. Мы зразумелі, што за гэты час бяляк зробіць поўны круг і можа два разы нарвацца на бяду. Мінула хвілін пятнаццаць, калі прагучаў стрэл. Сабакі паехалі і сціхлі. Мы зразумелі, што бяляк папаўся. Яшчэ праз колькі хвілін з'явіўся наш выпівоха з зайцам. Мы моўчкі пайшлі да астатніх. Аднавяскоўцам Вася, трасучы беляком, горда заявіў: «Во, прафесара ўзяў!» Хлопцы яго падтрымалі: «Нарэшце — папаўся». А дзядзька, якога яны слухаліся і лічылі старэйшым, плюнуў пад ногі і катэгарычна аб'явіў: «Бяры сваіх дварняг і каб нагі тваёй болей у лесе не было. Хто яму даў стрэльбу?» Нам стала ніякавата. «Я думаў, што разумныя зайцам не патрэбны. Ваўкі, гусі, алені — іншая рэч. Там гурт — патрэбен важак. А навошта зайцам разумнік? Чым яны дурнейшыя — тым нам лепш. Колькі мы за ім ганяліся, успомніце? Вунь і людзям разумнікі не патрэбны!» — бараніўся выпівоха. «Чаму не патрэбны? — абурыўся дзядзька.— Ва ўсе часы людзі шанавалі разумных, нават помнікі ставілі. Гэта цяпер такія, як ты, пазаймалі высокія пасады, дык што іх лічыць разумнымі? Як у цябе рука паднялася на прафесара? Ён жа за чатыры гады кожнага з нас ведаў у твар...»

Адзін з маладых — студэнт — не згадзіўся з дзядзькам: «А, можа, і ў зайцоў разумным кепска? Мучыўся б, як той Сахараў, а цяпер спіць спакойна».

Дзядзька нічога не адказаў. Мы моўчкі пачалі разыходзіцца: хто ў сакрэт, хто — у загон. Покуль ішлі разам, наш доктар расказаў забаўны факт. У сярэдзіне XVIII стагоддзя ў Маскве адчынілі універсітэт. Але грошай на ўтрыманне прафесараў не было. Увялі піцейны збор з п'яніц на карысць навукі. Нянавісць да вучоных з Расіі перайшла і ў СНГ. Цяпер і ў нас тым, хто п'е, пра навуку не напамінай.

**Вячаслаў ПІЛІПЧЫК,**
**кандыдат тэхнічных навук.**
г. Мінск.

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**«Рэгаліі даюць!» — грыміць знаёмы кліч! О Леанід Ільіч, о Леанід Ільіч...**

●

**Мінск, калыска камуністаў, першы з'езд РСДРП... Можа, нешта тут нячыста, бо здалі капіталістам паўмузея пад СП. Ці раскажуць зараз стэнды аб правале эксперыменту з гэтай РСДРП? Пра садружнасць канкурэнтаў пад напорам аргументаў — сімвал велічы СП?**

●

**Давайце не будзем? А давайце будзем! Паслухаем, што насвістваюць людзі, што заказваюць у канцэртах па заяўках, што пяюць на вясельных лаўках. Усё радзей гучаць народныя песні, усё часцей чуваць нярodныя песні. Можа, пасля моўнага пранікнення гэта самае небяспечнае наступленне. Што ж вы, любыя Ханкі, Лучанкі, не зважаеце на тыя вабікі-манкі, пазіраеце, як з завязанымі вачамі людзі тупаюць за далёкімі дудамі?.. Чалавек пяе ўначы, безгалосы і не вельмі цвярозы, мне ён блізкі, бо пяе ад душы «Вы шуміце, бярозы».**

●

**Чорны кот мне хацеў перабегчы дарогу, і тады сам сабе я прыйшоў на падмогу. Я вужом праслізнуў перад носам ягоным, ды ці ёсць у ніжэйшых істот забабоны?**

●

**Віцебск не прыняў у падарунак карціны Марка Шагала, бо давялося б выставіць іх у музеі і расказваць пра славуты мастацкі авангард, які тут нарадзіўся.**

**Мінск адмовіўся ад рэльефаў Фернана Лежэ, што яго ўдава, наша зямлячка Надзея Лежэ, прапанавала Палацу спорту бясплатна.**

**Кажуць, адбою не было б у нас ад турыстаў. А мы самі, дзеці нашы, унукі, хіба не хацелі б убачыць тыя шэдэўры? «Не трэба!» — сказалі партыйныя кіраўнікі. Што ж яны прапаноўвалі ўзамен?**

**Шмат гадоў галоўнай прадукцыяй Мастацкага фонду рэспублікі быў У. І. Ленін («Валодзя», як сарамліва называлі яго мастакі). Яшчэ ў 89-м і 90-м фігуры, бюсты, барэльефы ляпілі і адлівалі для Паставаў, Светлагорска, Мсціслава, Глыбокага, Лельчыцаў, Ашмян, Маладзечна, Чашнікаў. Ад гатовых работ заказчыкі потым адмаўляліся, некаторыя ціха выкуплівалі і хавалі як мага далей. Што да шэдэўраў, дык партыйнаму кіраўніцтву ўсё засціў Ленін.**

●

**Пісьмо ў творчы саюз: «Паважаныя таварышы, прашу цёплыя словы, падрыхтаваныя для майго некралога, апублікаваць раней: у мяне юбілей».**

●

**Дамогся поспеху? Дамогся, што хаваць, якая шацін прыйшла яго вітаць, дай Бог жывому гэта пажадаць!**

●

**Прэ рэклама з цьмянага экрана, а няма былога абурэння: тое, што лічылі «іх» заганай, стала нашым творчым дасягненнем.**

●

**Калі моцны прайграе слабаму, дык ці слабы выйграе ў моцнага, і хто з іх лепшы—той, што дазволіў сябе абыграць, ці той, што адважыўся выйграць?**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





**Нумар падпісаны ў друк 23.07.92 у 18.10.**





Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12